# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

31 САКАВІКА 1995 г. № 13 (3785) Кошт 200 руб.






*Удзельнікі вечара вакальнай музыкі М. Кл. Агінскага.*



*Фестываль адкрыўся балетам...*

# ПАЛАНЕЗ ВЯРТАННЯ...

Пасля чарадзейнай музычнай казкі, якая называлася "Каляды ў "Беларускай Капэле" і поўнілася электроннымі імпрэсіямі кампазітара-выканаўца Сяргея Багданава ў лучнасці са споведдзю жывых чалавечых галасоў "Уніі" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева, споведдзю праз традыцыйныя калядныя песняспевы ды праз новыя старонкі рытуальнай харавой музыкі, напісаныя аўтарам сучаснай беларускай імшы Аляксандрам Літвіноўскім, — пасля гэтай незабыўнай казкі ажыла... легенда. Музычная легенда, імя якой — "Паланез Агінскага". Да 230-годдзя нашага знакамітага, ды па сутнасці невядомага земляка Міхала Клеафаса Агінскага прымеркавала свой чарговы фестываль Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла". Тры канцэртныя вечары, працятыя духам асветніцтва і Адраджэння, насычаныя пазнавальнай, для многіх дасюль невядомай інфармацыяй ды разнастайнымі музычнымі ўражаннямі, дапамаглі людзям дапытлівым развітацца з колішнімі абмежаванымі, а то й проста закасцянелымі ўяўленнямі пра "Паланез Агінскага" ды асобу ягонага аўтара.

Падрабязныя нататкі з нагоды фестывалю, прысвечанага творчасці Міхала Клеафаса Агінскага, гэтага, як цяпер вядома, "гордага сваім паходжаннем ліцьвіна", чытайце ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа". Ну, а на гэтых здымках, як вы ўжо, канечне ж, здагадаліся, — імгненні той незабыўнай імпрэзы, сфатаграфаваныя У. Мяжэвічам ды В. Амінавым.

**С. ВЕТКА**



*Спявае А. БУНДЗЕЛЕВА.*



*Фартэпіянны дуэт — Г. ГЕТМАНАВА ды Н. ПАЗНЯКОВА.*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

*Гісторыю, навуку, культуру, мінулае, будучыню любой краіны вызначаюць высілкі ўсяго 2 працэнтаў ад яе насельніцтва — сцвярджаў у мінулым нумары "ЛіМа" адзін з нашых аўтараў. Гэтыя 2 працэнты могуць павесці за сабою нацыю, зрабіць краіну квітнеючай. Нельга не пагадзіцца з гэтым, калі ведаць і ўлічваць сусветны вопыт. На жаль, з савецкіх часоў нам засталася дрэнная спадчына — непавага да інтэлігенцыі. Знакамітага пісьменніка, вядомага мастака, вялікага вучонага можа абражаць і павучаць любы "кіруючы" невук і выскачка. І большасць будзе ўспрымаць гэта як належнае. Сёння даведзеная да галечы тэхнічная і творчая інтэлігенцыя адлучана ад кіраўніцтва дзяржавай, а кіруюць ёю, як некалі казаў Ленін, — "кухарчыны дзеці". І лічыцца гэта найвялікшай праявою... дэмакратыі. Але ж дэмакратыя — гэта не проста ўлада народа, а ўлада дзеля народа, і зусім не дзеля тых "прадстаўнікоў" народа, якія праўдамі і няпраўдамі дарваліся да ўлады... 2 працэнты — гэта многа ці мала? Нават калі лічыць па сталіцы краіны — гэта не менш за 40 тысяч чалавек. Дык, можа, хопіць нам пісаць і падпісваць розныя звароты і лісты, то да прэзідэнта, то да ААН, на якія ўлады даўно не звяртаюць ніякае ўвагі? Можа, варта шукаць іншыя шляхі і сродкі, каб паказаць, што мы таксама сіла, што і нашае цярпенне не бясконцае?..*

## ЭКСКУРСІЯ ТЫДНЯ

Пацярпелыя ад Чарнобыля раёны звычайна ўлады прыгадваюць напярэдадні важных палітычных падзей. Такіх, як, скажам, выбары. Новае ў чарговай паездцы на Чарнобыльскую АЭС, на Гомельшчыну і Магілёўшчыну, мяркуючы па паведамленнях СМІ, бадай, адно: на гэты раз улады былі непадобнымі да сябе — нікому нічога не абяцалі, а толькі выслухоўвалі ўсіх і расказвалі, у якім цяжкім становішчы знаходзіцца сёння наша рэспубліка.

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Аўтарам ліста ў "Народнай газеце", за які прэзідэнт зняў галоўнага рэдактара, аказалася жанчына...

## СВЯТА ТЫДНЯ

25 сакавіка было найвялікшае нашае свята — Дзень Волі, Дзень утварэння першай беларускай незалежнай дзяржавы. Як бы нехта ні адносіўся да ўсяго беларускага, гэта гістарычны факт, ад якога нельга адмахнуцца як ад назойлівай мухі. Нашыя кіраўнікі, якія не мінаюць ніводнага прафесійнага свята і не забываюць павіншаваць міліцыянераў альбо работнікаў камунальнай гаспадаркі, зрабілі выгляд, што не заўважылі свята ўсяго беларускага народа. Папраўдзе, іншага мы ад іх і не чакалі. Нашыя кіраўнікі толькі вучацца кіраваць. Дык няхай жа прыкладам для іх будзе цывілізаваны свет. Прэзідэнт ЗША Клінтан не забыў павіншаваць з нацыянальным святам беларускую дыяспару ў сваёй краіне.

## ЗДЗЕК ТЫДНЯ

Ганьба таму народу, які не паважае свае святыні, дадзеныя яму гісторыяй, прадзедамі, а не выдуманыя, скампіляваныя чарговым "пастухом". Колькі здзекаў нацярпеліся за апошнія гады нашы дзяржаўныя сцяг, герб, мова... Калі былі яны забароненымі — гэта было зразумелым і таму не такім крыўдным. Сёння ў Мінску на тваю беларускую мову азіраецца палова аўтобуса, гнеўна зыркае прадаўшчыца крамы, а чачэнская ці азербайджанская — не заўважаюцца, бо ці не больш прывычныя. Сёння па Мінску вольна можа прайсці нехта пад расійскім, мікалаеўскім альбо савецкім сцягам, а на беларускі дзяржаўны міліцыянеры кідаюцца, не раўнуючы, як быкі на чырвоны колер... Тое, што вы бачыце на здымку, адбылося ў Дзень Волі, 25 сакавіка, ля мінскага паштамта. Міліцыянеры вырывалі з рук у людзей бел-чырвона-белыя сцягі. Дзяржаўныя сцягі незалежнай краіны ў дзень нацыянальнага свята...



## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Вярхоўны Савет прыняў прапанову прэзідэнта і прызначыў старшынёй Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Валерыя Ціхіню — юрыста з партнаменклатурным мінулым. Тое, што не змог зрабіць некалі В.Кебіч, лёгка ўдалося А.Лукашэнку. Прычым лідэр апазіцыі БНФ у парламенце З.Пазняк на гэты раз "пайшоў на кампраміс" і заклікаў дэпутатаў прагаласаваць за В.Ціхіню. Вядома, "трэцяя ўлада" — судовая, не магла гэтак доўга заставацца безгаловай, але...

## МАНКУРЦТВА ТЫДНЯ

Здаецца, за апошнія гады пачулі мы ад сваіх манкуртаў столькі блюзнерскіх выказванняў пра родную мову, што здзівіць нас сёння ўжо няма чым. І тым не менш — падобнага яшчэ не было. Нехта "Сергей Малиновский" надрукаваў у "Советской Белоруссии", якой кіруе цяпер Павел Якубовіч, артыкул пад назовам "Притча о языцех или зачем сталкивать языки лбами", у якім моўная сітуацыя ў краіне пастаўлена з ног на галаву. Пабойцеся Бога, таварыш Маліноўскі, хто, дзе і калі вас прымушаў гаварыць па-беларуску, у чым вы бачыце "насилие", "нажим", "насаждение" беларускай мовы? Насаджаць можна чужую мову, у дадзеным выпадку — рускую (да чаго вы і заклікаеце, што і рабілася на працягу двухсот апошніх гадоў), а не родную. Каму гэта і дзе беларуская мова дала магчымасць зрабіць кар'еру? Хутчэй наадварот. І якога яшчэ большага "равноправия русского языка наровне с белорусским" вы хочаце? Ну не "ндравіца" вам "эта мова", "некада" ў сённяшні мітуслівы час вам яе вучыць, дык так і скажыце, а не капайце ёй магілу, прыкрываючыся спасылкамі на правы чалавека. Хопіць кпіць з нашае бяды, хопіць здзекавацца з нас, улічыце, што і ў нас ёсць правы. Прызнайце, нарэшце, імкненне карэннай нацыі захаваць сваю мову і не выстаўляйце сябе на ўвесь свет гэтакім "вынаходнікам веласіпеда"... Тут дарэчы будзе сказаць нашаму прэзідэнту, што якраз вось такія артыкулы і "накаляют страсти", ствараюць "гражданское противостояние в обществе" і сутыкаюць народ ілбамі.

З нагоды

# ДЗЯКУЙ БОГУ, ЗНАЙШОЎСЯ АЎТАР

"Мы прыйшлі, каб сказаць вам праўду аб усім, што тычыцца апублікаванага ў "Народнай газеце" ад 10 сакавіка 1995 г. "Ліста да прэзідэнта", — такімі словамі пачаў сваю прэс-канферэнцыю, якая адбылася ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, цяпер ужо былы галоўны рэдактар "Народнай газеты" Іосіф Сярэдзіч.

Як можна было зразумець, асноўнай мэтай прэс-канферэнцыі было прадставіць журналістам (якіх сабралася як ніколі многа) аўтара "Ліста да прэзідэнта", ліста, што нарабіў столькі шуму і стаў прычынай (ва ўсякім разе фармальнай) з'яўлення Указа прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі аб зняцці Іосіфа Сярэдзіча з пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты".

Многія сродкі масавай інфармацыі краіны расцанілі прэзідэнцкі Указ, як неадпаведны некаторым канстытуцыйным нормам і Закона аб друку, што дэкларуюць права грамадзян Беларусі на свабоду слова, поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.

Як вядома, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, азнаёміўшыся з "Лістом...", загадаў органам бяспекі рэспублікі тэрмінова адшукаць яго аўтара (факт, што і казаць, экстранеардынарны), якія неўзабаве адрапартавалі, што Здзіслава Вальняровіча (менавіта гэтым імем быў падпісаны "Ліст") у прыродзе не існуе.

Пікантнасць гэтай амаль дэтэктыўнай гісторыі заключалася яшчэ і ў тым, што адначасова пошук аўтара "Ліста" вяла і рэдакцыя "Народнай газеты". Народнагазетаўцам удалося сустрэцца з аўтарам публікацыі ў іх газеце, які прыпаднёс ім пэўны сюрпрыз: аказалася, што Здзіслаў Вальняровіч — гэта псеўданім, ды не мужчыны, як чакалася, а вельмі мілай маладой жанчыны, кандыдата навук Рэгіны Эдуардаўны Зімніцкай, якая і прадстала перад вачыма журналістаў.

Такім чынам, адзін з момантаў прэзідэнцкага Указа, дзе сцвярджалася, што ў "НГ" быў надрукаваны ліст "неўстаноўленага аўтара" — не адпавядае сапраўднасці.

Але ёсць ва ўсёй гэтай гісторыі адна акалічнасць, якая прымушае горка ўздыхнуць. Як распавяла на прэс-канферэнцыі сама Рэгіна Эдуардаўна, даведаўшыся, што яе "шукаюць", яна вырашыла кінуць усё — працу, сям'ю і з'ехаць (хоць часова) у Расію, дзе жывуць яе сваякі. Як кажуць, далей ад граху.

А сведчыць усё гэта пра тое, як мала чаго вартыя ў свядомасці грамадзян дараваныя канстытуцыяй свабода і недатыкальнасць асобы, як жыве ў іх амаль на генетычным узроўні страх перад дзяржаўнымі інстытутамі, наогул дзяржавай.

Вы спытаеце, як жа Рэгіна Зімніцкая апынулася на прэс-канферэнцыі ў Мінску? Даведаўшыся ў Расіі, што Указам Прэзідэнта Беларусі галоўны рэдактар "Народнай газеты" зняты з пасады, па сутнасці, "па яе віне", яна вырашыла прыехаць і павініцца перад Іосіфам Сярэдзічам, папрасіць у яго прабачэння.

Такая яе версія, з замілаваннем ўспрынятая большасцю журналістаў, што прысутнічалі на прэс-канферэнцыі.

Ну, што ж, з замілаваннем, дык з замілаваннем...

**М.ЗАМСКІ**

Выставы

# НА ЎСХОД ПРАЗ ЗАХАД

Пачынаючы ад "суровага стылю" 60-х гадоў, у беларускім мастацтве было, так бы мовіць, два вектары: усходні і заходні.

Афіцыйнага прызнання мастакі шукалі ў Маскве. Там, у сталіцы СССР, лепшыя выставачныя залы, аўтарытэтная крытыка. Слова, сказанае ў Маскве, лепш дойдзе да вушэй мясцовага начальства, поспех у Маскве — прыбытак у Мінску.

Адначасова шукаліся і шляхі на Захад. У гэтым сэнсе вельмі прэстыжным сярод мастакоў лічыўся ўдзел у прыбалтыйскіх біянале, трыенале, квадрыенале. Сяму-таму шчасціла наладзіць персаналію альбо ўзяць удзел у групавой выставе дзе-небудзь у Польшчы альбо ГДР...

З распадам СССР пра Маскву нібыта і забыліся. Цяпер наша мастацтва часцей гасцюе на захадзе, чым на ўсходзе. Яно, зрэшты, і някепска. Але Масква па-ранейшаму — значны культурны цэнтр, і наша прысутнасць там далёка не лішняя.

З 17 па 29 сакавіка ў Муніцыпальнай галерэі Масквы працавала выстава графікі Уладзіміра Савіча. Мяркую, што для маскоўскай крытыкі гэта было своеасаблівым адкрыццём Беларусі. Менавіта так! Расійская прэса, іншыя сродкі масавай інфармацыі ствараюць вельмі непрывабны вобраз нашай краіны: у нас і крызіс эканамічны, і заводы стаяць, і народ у роспачы, і начальства дурное, і ўвогуле — Беларусь толькі чакае, як бы далучыцца да расійскага рубля і такім чынам вырашыць усе свае праблемы. Вельмі непрывабны, скажам шчыра, вобраз...

Так, праблемы ў нас ёсць (прычым, у Маскве жыццё не намнога лепшае, чым у нас), але апісваць іх у фарбах апакаліпсісу, мяркую, — будзе занадта.

Выстава Уладзіміра Савіча стварае зусім іншы вобраз Беларусі — таленавітай, прадпрымальнай, упэўненай у сваіх сілах і сваёй суверэннай будучыні. Адзін з удзельнікаў прэс-канферэнцыі, што ладзілася ў дзень адкрыцця выстаўкі, вядомы маскоўскі крытык Аляксандр Марозаў адзначыў вытанчанасць і канструктывізм творчасці Савіча і выказаў спадзяванне, што такія мастацкія акцыі будуць спрыяць утварэнню таго, што цяпер называюць "адзінай культурнай прасторай".

Але ў дадзеным выпадку трэба дадаць, што "адзіная культурная прастора" ўтвараецца за кошт арганізацыйнай і фінансавай дапамогі захаду. Спонсар выставы Савіча — германскі канцэрн "Сіменс АГ". Дзякуючы спонсару, у дзень адкрыцця выставы ўжо быў надрукаваны каталог твораў У. Савіча. Па нашых крытэрыях, дык проста фантастычная аператыўнасць. Парадокс нашага часу: нават каб вярнуцца на ўсход, трэба грошы захаду...

**П. В.**

Фестывалі

# СВЕТ — І ЧАЛАВЕК У ІМ

***Так, бадай, можна вызначыць кірунак праграм 12-га музычнага фестывалю "Мінская вясна". Пачынаецца ён заўтра канцэртам юных талентаў — выхаванцаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі ў суправаджэнні Дзяржаўнага камернага аркестра рэспублікі. А 2 красавіка на філарманічнай сцэне — Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам германскага дырыжора П. Д. Панэла, з салісткай К. Сканаві, лаўрэаткай прэстыжных міжнародных фартэпіянных конкурсаў...***

Зрэшты, марны занятак — знаёміць чытачоў са зместам фестывальнай афішы, бо давядзецца рабіць анонс канцэртаў аж да 9 мая — менавіта ў гэты святочны дзень завершыцца "Мінская вясна-95".

Сёлетняя вясна, дарэчы, і прысвячаецца святу — 50-годдзю Вялікай Перамогі. Прысвячаецца не толькі й не столькі самой юбілейнай рубрыкай, колькі вось гэтай гуманістычнай скіраванасцю канцэртных праграм: асэнсаванне свету і чалавека ў ім, роздум пра каштоўнасці жыцця, пра тое, што ёсць мір і што ёсць агрэсія, як дабро можа процістаяць злу...

Сярод фестывальных падзей аматары мастацкіх прагнозаў вылучаюць творчы вечар кампазітара А. Мдзівані, дзе прагучыць прэм'ера яго сімфоніі "Паўночныя кветкі" для саліста, хору ды сімфанічнага аркестра (19 красавіка), а таксама аўтарскія канцэрты кампазітараў маладзейшага пакалення — С. Бельцюкова (будуць прадстаўлены і новыя, і ўжо вядомыя творы — Сюіта для аргана ў старадаўнім стылі, рамансы на вершы М. Багдановіча, кантата на вершы Я. Купалы ды Я. Коласа, фрагменты з Літургіі ды інш.) і А. Залётнева (у змястоўнай камернай праграме асабліва дарэчы, бо на Вялікдзень, прагучыць "Усяночная").

Словам, і майстры беларускай музыкі, і адметныя госці сталіцы (з Германіі ды Швейцарыі, з Расіі ды Францыі) пастараюцца напоўніць наша жыццё добрым духам і светлымі думкамі. Застаецца спадзявацца, што іхнія намаганні не застануцца марнымі і што ў мірным канцэртным жыцці не ўзнікне прыкрых перашкод накшталт тых, праз якія былі сарваны музычныя праграмы ў зале на Залатой Горцы і ледзь не ўспыхнуў канфлікт паміж прыхаджанамі касцёла св. Тройцы ды адміністрацыяй філармоніі, якой належыць сам будынак. Інцыдэнт, як кажуць, вычарпаны, перамаглі мудрасць і здаровы сэнс. Так што абедзве філарманічныя залы рыхтуюцца прыняць усіх, каму хочацца адчуць жыватворны подых "Мінскай вясны".

**Є. Б.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# МАСТАК З БЕЛАРУСІ І ГОРАДА УПСАЛА



**Ян Кузьміцкі — ужо досыць вядомая нам асоба. У мінулым годзе прайшлі яго, беларуса па паходжанні і шведа па пашпарце, персанальныя выставы ў Гародні, Віцебску, Полацку і, зразумела, у Мінску. Пагалоска разышлася ад гэтых выставаў немалая. А цікавасць да творчасці Яна Кузьміцкага нарадзілася не толькі з "замежнасці" мастака, тым больш, што работы беларусаў-эмігрантаў сталі досыць частай з'явай у нашых выставачных залах. Яна — з таямніцы самога майстра.**

**Аднойчы давялося мне шчыра пагутарыць з ім у малюсенькім пакойчыку хрушчоўскай кватэры, куды пасялілі яго з жонкаю да старой бабулькі. "Экзотыка", што не абмінула і яго жыццё. Каларыт той гаворкі неяк зазнаў адлюстраванне ў словах гэтага дзіўнаватага з выгляду чалавека з празмерна цяжкім лёсам. Шчымлівы боль і шчодры гумар над сабою — усё праз край выплеснулася тады. Відаць, мастаку было складана праз столькі год завітаць на радзіму. Але ж і каханне тут знайшоў, і, нечакана, натхненне, ад роднага паветра, што зняло змрок ягоных жывапісных фантазій. "Сорак карцін за сорак дзён", — смеючыся прызнаўся ён, калі наладжваў сваю новую выставу ў Рэспубліканскім інвалідным цэнтры ("Інвацэнтр"). Ні балючыя ўспаміны дзяцінства, ні складаныя пошукі свайго месца ў замежжы не знішчылі мастакоўскіх, сапраўдных пачуццяў і эмоцый, яны надзіва выпеставалі веру ў прыгожае. І краіна, якая некалі на яго забылася, стала цяпер крыніцай адраджэння душы праз светлыя жаночыя вобразы-імпрэсіі.**

**І не варта крыўдаваць на мастака, які так многа ўзгадвае свае жудлівыя "універсітэты": бязлітаснае жыццё, што пачыналася на вуліцы, бясконцую барацьбу за будучыню. Зразумела, што ўрэшце выйграў ён, але якім коштам! Хто зазірне ў душу творцы, вымушанага знаходзіць у кан'юнктуры рынку не толькі тэмы, але і прыстасоўваць даспадобы публікі каларыт, манеру насуперак асабістаму меркаванню і жаданню. Зрэшты, да гэтага прызвычайваешся. І калі становішся купляемым, модным, сцвярджаеш сам сабе з годнасцю, што маеш набытак, дом, майстэрню, многае з таго, пра што нават не марыць сярэдні швед, які, аднак, не падасць эмігранту рукі.**

**Але давайце ўсё ж усцешымся, што духоўнае прыгняценне зняла з Яна Кузьміцкага менавіта Беларусь. Хай сабе і ў выглядзе каханай дзяўчыны, беларускі. І мастак цяпер лунае ў цёплым колеры сусвету, вышэй аголеных змрочных дрэваў, сярод спрадвечнай жаночай прыгажосці.**

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*На здымку: Я. Кузьміцкі, "Кружэнні дрэва"*

*Фота Т. Хаміцэвіч*

# А ЦЯПЕР І ГЕАГРАФІЧНАЕ ВЫДАННЕ...

**Да сакавіка сёлетняга года на Беларусі не было ніводнага перыядычнага выдання па геаграфіі: ні часопіса, ні газеты. І вось выйшаў першы выпуск геаграфічнай старонкі (пакуль старонкі) "Свет вакол нас" у газеце "Магілёўскія ведамасці" — гэтае абласное выданне мае наклад больш за 90 тысяч асобнікаў. Старонка рыхтуецца сябрамі Магілёўскага аддзела Беларускага геаграфічнага таварыства. У выпуску змешчана дзевяць матэрыялаў, якія тычацца не толькі вобласці, а і краіны і нават планеты. Мяркуецца, што "Свет вакол нас" будзе выходзіць штомесяц на 14 старонках фармату "Магілёўскіх ведамасцяў".**

**І. ШАРУХА**

# БОСЫЯ НА СНЕЗЕ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ З ВЫСТАЎКІ "ПАГОНІ", ПРЫСВЕЧАНАЙ 77-Й ГАДАВІНЕ БНР.

Белы — колер безабароннасці. Белы — колер снегу і лёду, якія спрабуюць незваротна заглушыць гаману нашых рачулак і травы. Чырвоным паскам па гэтым снезе — жыцці тых, хто і ў глухую зімку чуў, як малітву паўтараў ціхі голас сваёй Айчыны...

Летась на выстаўцы мастацкае суполкі "Пагоня" перамагла інсталяцыя, з падранымі вокладкамі "Гісторыі КПСС", мухаморамі, ваеннымі пагонамі і бог ведае яшчэ чым, апроч галоўнага, што вызначае асобу і чалавека — апроч любові да сваёй Бацькаўшчыны.

Сёлета, здаецца, сама Беларусь выйшла да нас з паклонам... Белая, белая, чыстая, чыстая... Гэтая назва — "Босыя на снезе" з'явілася ў мяне ля твораў Аляксея Марачкіна. Пагляд жанчыны і хлопчыка, што босенькім выбег на снег, па-над нашымі галовамі ўпіраўся ў безнадзейна скаваныя марозным узорам "Вокнамі ў зіму"... Сляпучая бель панавала паўсюль... Але ж гэтыя казачныя алегорыі "Кара з неба" ці "Не з тае галавы карона" ўсё ж былі толькі ўзорамі на заснежаным вакне... Мусіць жа прыйсці, хоць калі-небудзь мусіць жа прыйсці на нашую зямлю вясна... "Снягі майго дзяцінства. Прысвячэнне Маі Кляшторнай" — так назваў Аляксей Марачкін свой твор, які міжволі задаў тон усёй выставе. Тон не толькі па колеры ці тэме, найперш па шчырасці. Памятаю, на адной з выстаў мяне ўразілі непаўторныя, па-мацісаўску адметныя ў параўнанні з класічнымі малюнкі Марачкіна. Яны розніліся ад таго, што было асноваю ягоных жывапісных партрэтаў. І вось адзін з тых малюнкаў ажыў у жывапісе. Мастак перад намі гранічна шчыры. Ён давярае нам. Як давярае Яўген Кулік, прапанаваўшы ў розныя часы занатаваныя алоўкам малюнкі нашае прыроды. І Уладзімір Сулкоўскі, узводзячы да мастацкага сімвала разбэрсаны букет валошак ці такія родныя для кожнага з нас жоўтыя вяргіні пад вакном. А прыгледзьцеся да твораў Ягора Батальёнка. Нават святло, што струменіць з неба, у кожную пару года, у розны час дня на нашай зямлі рознае — то шэра-блакітнае — Ілля, то зеленаватае — травень, то бурштынавае — бабіна лета...

Прыгледзьцеся, прыслухайцеся і... вучыцеся гаварыць па-беларуску.

На выстаўцы няшмат партрэтаў. Але ёсць дух тых, хто складае гонар нашае нацыі. Ён у мясцінах, звязаных з гісторыяй і імёнамі мастакоў і паэтаў, у храмах, замках, нацюрмортах... Дзіўна, на нацюрмортах, і ў экспазіцыі міжволі звярталі на сябе ўвагу музычныя інструменты — ліра, акарына... Можа, яны змоўклі таму, што мы забыліся на мову сваёй зямлі?

У кожнага месца ёсць свой голас. І людзі мусяць перадаць яго вышэй, да неба. А мы лянуемся, баімся, заціскаем вушы сабе і сваім дзецям... А ведаеце, чаму нашыя мастакі і паэты ўсё яшчэ гадуюць, выхоўваюць і сваіх дзяцей, і сваіх унукаў па-беларуску? Ды таму, што ўглядаюцца ў колеры, прыслухоўваюцца да гукаў сваёй зямлі, робяць тое, на што ў большасці сучасных людзей проста не стае часу. Дык хоць бы да мастакоў прыслухаліся...



*Выступленне ансамбля "Бліскавіца" пад кіраўніцтвам М. Дудчанкі на адкрыцці выставы.*

У нашай Бацькаўшчыны гісторыя, якой бы пазайздросціў кожны еўрапейскі народ. Пра яе — палкія жывапісныя экспрэсіі Сяргея Рымашэўскага "Паляўнічы", "Паляванне на крата", пра яе — затканыя зорным узорам, набліжаныя да неба графічныя аркушы Рыгора Сітніцы ("Менск. Няміга. Горад з нашай памяці", "Палац у Ружанах" і інш.), пра яе ўрэшце — і колеравы сум, самота акварэляў Міколы Аўчыннікава "Далёка ад нас..." З яе, з гісторыі, увасобленыя ў скульптуры строгая, недасягальная ў сваёй асвечанай мудрасці Ефрасіння Полацкая Алеся Шатэрніка і мяккая, жаноцкая Барбара Радзівіл Тамары і Уладзіміра Васюкоў... А незалежнасць? Незалежнасць, на першы погляд, у дробязях. Вось зрабіў М. Рыжы маркі, на якіх выявы Касцюшкі, Ясінскага, Ваўжэцкага, Агінскага, і, гледзячы на іх, адчуваеш сябе частачкаю годнага еўрапейскага народа. Праілюстравала А. Лапіцкая "Біблію" — і ля гэтых аркушаў ты далучаешся да сусветнае гісторыі і культуры.

Абстрактныя краявіды і "Вершнікі на конях" С. Цімохава суседнічаюць на выставе з эмацыянальнымі, мяккімі нацюрмортамі і краявідамі У. Хадаровіча. Мастакі па-рознаму глядзяць і ўвасабляюць гэты свет. Але і за творамі з серыі "Чарнобыльская трагедыя" В. Шматава, і за "Калядкамі" В. Мікіты, і за "Разбуральнаю мітуснёю" Ю. Хілька, і за "Будкаю суфлёра" У. Вішнеўскага, і нават за прасветленымі тварамі Ю. Піскуна, за раскладзенаю старажытнаю зброяй, кампазіцыямі са скуры, керамікі, пяшчотнымі габеленамі мне чулася адно — трывога. Каб нашая, нават апаленая Чарнобылем, усё яшчэ белая і чыстая Айчына не страціла сваёй хай сабе бядотнай, але ж стабільнасці... Каб не разліўся чырвоны пасак па сцягу на ўсё палатно... Каб не сталі мы зноў усе "босымі на вогнішчы".

Цяпер зноў пачалі задаваць пытанні: "Навошта нам той вершнік, ад каго бараніцца нам сваёю "Пагоняй"?" Ды не бараніцца — бараніць мусіць гэты вершнік сваю Маці. Кожнай жанчыне патрэбен рыцар, каб у рэшце рэшт адчула яна сябе годнаю Жанчынаю...

На месцы, дзе летась стаяў вялікакняскі трон, сёлета — святыя Канстанцін і Алена Тамары Васюк, мемарыяльная дошка "25 сакавіка" Алеся Шатэрніка, габелен і саламяная зорка — знак сонца. Як набожнікі, ахоўваюць усё гэта сатканыя з крынічнай вады і пошуму дажджу ручнікі-габелены Паўла Бондара. На выставе шмат святых — жывапісна пераасэнсаваная драўляная скульптура, алегорыі, уяўныя звароты да неба... Кола разамкнулася. Тут, на зямлі, нам няма на каго спадзявацца. Тут уладараць лялькі. Я разумею, чаму мастакі ўзносяць сваё маленне да святых, да сонца. Над нашым новым домам (вобраз Рыгора Сітніцы) яшчэ няма даху. І мастакі, як і ўсе мы, адчуваюць сябе босымі на снезе.

**Галіна БАГДАНАВА**

*Фота А. МАЦЮША*



*А. Пушкін. "Геаметрыя дзяцінства".*



*У зале выставы.*



*А. Марачкін "Снягі майго дзяцінства. Прысвячэнне Маі Кляшторнай".*




*Частка інсталяцыі "Іранічная прапанова новага герба ў сувязі з цяперашняй палітычнай сітуацыяй".*

***З'яўленне гэтай кнігі напрыканцы мінулага года супала з чарговым усплёскам сумненняў у Вярхоўным Савеце адносна ім жа прынятага рашэння трохгадовай даўнасці: ці добра тады зрабілі, абвясціўшы герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь? Не сакрэт, што ў аснове разыходжанняў — найперш палітычнае процістаянне розных груп дэпутатаў і тых грамадскіх пластоў, чые погляды яны выказваюць. Але перыядычнаму ажыўленню спрэчак спрыяе і наяўнасць шматлікіх "белых плям" у гісторыі беларускай сімволікі. Асабліва гэта датычыць бел-чырвона-белага сцяга, звесткі пра паходжанне якога даволі фрагментарныя, што выклікае ў даследчыкаў неадназначныя, часам процілеглыя меркаванні. Натуральна, у такой сітуацыі кніга выдавецтва "Полымя" не можа застацца па-за ўвагай зацікаўленага чытача.***

# НЕ ЧУЖЫ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ СІМВАЛ

## РАЗВАГІ НАД КНІГАЙ "ФЛАГІ БЕЛАРУСІ ЎЧОРА І СЁННЯ"

Выданне мае папулярны характар, тым не менш аўтары, А. Басаў і І. Куркоў, імкнуцца надаць гаворцы пра ўзнікненне і сённяшняе бытаванне сцягаў на Беларусі навуковы грунт. Яны разглядаюць праблему з пазіцый спецыяльнай гістарычнай дысцыпліны — вексілалогіі (ад лацінскага vexillum — вертыкальны шост з кавалкам тканіны), якая вывучае паходжанне сцягоў, традыцыі іх выкарыстання. Лагічнасць такога падыходу больш чым відавочная. Таму інакш чым парадоксам не назавеш тую акалічнасць, што практычна ніхто з папярэднікаў А. Басава і І. Куркова па даследаванні гісторыі сцягаў на Беларусі не звяртаўся да паслуг вексілалогіі. Нават "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" здолела сказаць пра гэту хаця і маладую, але ўжо з пэўнымі набыткамі навуку ўсяго дзве фразы (т. 2, с. 243). Адсюль і прыкметнае дылетанцтва, што праяўляецца ў дыскусіі нават прафесійнымі гісторыкамі, не кажучы ўжо пра тых яе ўдзельнікаў (у тым ліку дэпутатаў), хто не абцяжараны спецыяльнай адукацыяй.

Спрэчнай з'яўляецца сама тэрміналогія, якой прывыклі пры гэтым карыстацца. З кнігі А. Басава і І. Куркова вынікае, што трэба бачыць адрозненне паміж тэрмінамі "флаг" і "сцяг". Яны хоць і блізкія, але не ідэнтычныя. Калі <u>флаг</u> з пэўным відарысам сімвалізуе аб'яднанне вялікай масы людзей (флаг дзяржаўны, нацыянальны, марскі) і тыражуецца ў мностве асобнікаў, то <u>сцяг</u> (па-руску "знамя") не мае такога шырокага прызначэння, заўсёды вырабляецца ў адным экземпляры і з'яўляецца пастаяннай прыналежнасцю канкрэтнай установы ці арганізацыі (сцяг воінскай часці, дзяржаўнага органа і г. д.). Пра гэта, мабыць, варта задумацца.

Праўда, паслядоўна прытрымліваючыся менавіта такога прынцыпу, аўтары кнігі чамусьці не асмельваюцца ясна і адназначна яго сфармуляваць і праводзяць свой пункт гледжання, так бы мовіць, явачным парадкам. Яны не толькі ўжываюць паняцце "флаг" у дачыненні да дзяржаўнага сімвала ва ўласным тэксце (на што маюць поўнае права), але механічна замяняюць гэтым тэрмінам слова "сцяг" пры цытаванні прац іншых даследчыкаў, а таксама дакументальных матэрыялаў. Не пазбеглі такога "ўдасканальвання" нават Закон "Аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь" і адпаведнае Палажэнне (іх тэксты прыведзены ў кнізе). Падобная рэвізія заканадаўчых актаў, якія адначасова з'яўляюцца і гістарычнымі крыніцамі, абсалютна недапушчальная ні з прававога, ні з навукова-гістарычнага пункту гледжання.

Выданне, пра якое вядзём гаворку, прысвечана найперш сцягам Беларусі. Але чытач знойдзе тут цікавыя звесткі і пра паходжанне ды выгляд сцягаў іншых краін — Галандыі, Аўстрыі, Даніі, Францыі, Расіі, Вялікабрытаніі, ЗША, Германіі, Польшчы, Латвіі, Чэхіі і Славакіі. Гэта інфармацыя зусім не лішняя: яна дазваляе паразважаць аб вытоках і шляхах станаўлення вексілагічнай сімволікі ў еўрапейскіх народаў, намацаць тут пэўныя заканамернасці, каб праз іх прызму паглядзець на гісторыю нашага нацыянальнага сцяга. На жаль, аўтары часцей абмяжоўваюцца пераказам эмпірычных фактаў, не выходзячы на выразныя абагульненні. У тых жа выпадках, калі яны спрабуюць гэта зрабіць, іх высновы нярэдка супярэчаць фактаграфіі самой кніжкі. Так, узнікненне ў Еўропе дзяржаўных сцягаў А. Басаў і І. Куркоў звязваюць толькі з развіццём гандлёвага і ваеннага мараплавання, што выклікала патрэбу ў адзіным апазнавальным знаку для караблёў пэўнай краіны. Адсутнасць да пачатку XX стагоддзя агульнанацыянальнага сцяга ў беларусаў яны тлумачаць тым, што Беларусь не мела свайго флоту, бо была пазбаўлена выхаду да мора. Такі падыход, бадай, можна было б прызнаць слушным у выпадках, скажам, з Галандыяй, Вялікабрытаніяй ці ЗША. Але ўжо ў дачыненні да Германіі, а тым больш Латвіі, Чэхіі, Славакіі, многіх маладых афра-азіяцкіх краін гэтая "метода" яўна не спрацоўвае. Іх дзяржаўныя сцягі ўзнікалі зусім не шляхам трансфармацыі карабельных апазнавальных знакаў, а нараджаліся ў нетрах патрыятычных рухаў за нацыянальнае адзінства, вызваленне з-пад чужаземнага прыгнёту і з'яўляліся напачатку сімваламі барацьбы народаў за незалежнасць. Незразумела, чаму другі шлях аўтары трактуюць як выключэнне з агульнага правіла, хаця іх жа матэрыялы сведчаць пра яго пашыранасць на ўсёй планеце, асабліва у XIX—XX стагоддзях. Відавочна, што сучасны сцяг нашай дзяржавы паводле першапачатковага прызначэння адносіцца да другога тыпу. Адсутнасць на пэўным этапе агульнанацыянальнага вексілагічнага сімвала была абумоўлена не аддаленасцю Беларусі ад мораў, а больш познім (у параўнанні з заходнееўрапейскімі народамі) працэсам этнічнай кансалідацыі, адсутнасцю самой нацыянальнай дзяржавы, значыць і яе граніц, без якіх гаварыць пра "выхад да мора" наогул бессэнсоўна.

Добра, што, расказваючы пра сцягі іншых краін, аўтары не забылі пра нашых суседзяў — Польшчу, Расію, Латвію. Але ж чаму па-за іх увагай засталіся Украіна і Літва, з якімі Беларусь таксама мела шмат агульнага ў мінулым і перажывае аднатыпныя працэсы грамадскага развіцця ў нашы дні? Мабыць, гэтае падабенства не магло не адбіцца на станаўленні іх дзяржаўнай сімволікі. Асабліва спакусліва было б прасачыць гісторыю стварэння нацыянальнага сцяга літоўцаў, якія на працягу некалькіх стагоддзяў жылі супольна з нашымі продкамі ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і з якімі нам зараз даводзіцца вырашаць праблему, так бы мовіць, дыферэнцыяцыі палітычнай і культурнай спадчыны гэтай сярэдневяковай дзяржавы.



На жаль, даволі супярэчлівым атрымаўся ў кніжцы аповяд пра галоўны, найбольш важны для нашай грамадскасці прадмет гаворкі — гісторыю бел-чырвона-белага сцяга. Пераходзячы да гэтай тэмы, А. Басаў і І. Куркоў адназначна сцвярджаюць: "Гісторыя бел-чырвона-белага флага не мае, як гэта спрабуюць даказаць многія, глыбокіх гістарычных каранёў". З такой катэгарычнай высновай вельмі цяжка пагадзіцца. Бо ўжо з наступных старонак кнігі чытач даведваецца, што бела-чырвоная гама колераў з даўніх часоў была надзвычай пашырана, напрыклад, у адзенні нашых продкаў: "Простыя беларусы на працягу стагоддзяў карысталіся ў асноўным белым колерам — колер непафарбаваных палотнаў, і чырвоным". Прычым аўтары падкрэсліваюць, што маюць на ўвазе не пануючае саслоўе — шляхту, а менавіта "простых" людзей, гэта значыць пераважную большасць народа. Але і ў афіцыйным ужытку гэтыя колеры карысталіся пашанай: "Гербы ваяводстваў на цяперашняй тэрыторыі Беларусі па каляровым рашэнні больш адпавядалі чырвона-белай гаме". Невыпадкова таму і беларускія паўстанцы 1863—1864 гг. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага выкарыстоўвалі значкі такіх жа колераў. Больш таго, у кнізе знаходзім выключна цікавую версію з успамінаў А. Якубоўскага — бацькі вядомага актывіста Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Я. Якубоўскага. Праходзячы за 1939 г. службу ў польскім войску А. Якубоўскі пачуў наступны расказ. Быццам у свой час браты Луцкевічы выявілі ў адным кітабе звесткі, што ў Грунвальдскай бітве 1410 г. вялікі князь літоўскі Вітаўт ваяваў пад бел-чырвона-белым сцягам, пасля чаго Луцкевічы пачалі прапагандаваць яго як гістарычны сімвал беларусаў. На жаль, А. Басаў і І. Куркоў не спасылаюцца на крыніцу, дзе апублікаваны ці захоўваюцца ўспаміны А. Якубоўскага, таму дадзеную інфармацыю нельга лічыць уведзенай у навуковы ўжытак. Але нават калі мы маем тут справу толькі з вусным паданнем, то ў распараджэнні гісторыкаў дастаткова бясспрэчных фактаў (у тым ліку і змешчаных у кніжцы), каб сцвярджаць: бел-чырвона-белы сцяг — не чужы для нашай гісторыі сімвал. У яго колеравай гаме адлюстраваны як мастацкі густ шырокіх мас беларусаў (а гэта самы архаічны элемент культуры, што ўвасабляе найбольш старажытныя пласты нашай гісторыі), так і сфарміраваныя стагоддзямі на беларускіх землях геральдычныя традыцыі.

Здаецца, аўтары кнігі "Флагі Беларусі ўчора і сёння" дапускаюць тую ж метадалагічную памылку, што і многія іншыя ўдзельнікі дыскусіі. І прыхільнікі думкі аб наяўнасці ў беларусаў ужо ў старажытныя часы агульнанацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга, і тыя, хто начыста адмаўляе якія б там ні было гістарычныя падставы для яго існавання, па сутнасці змешваюць два розныя аспекты праблемы. Адна рэч — даследаваць вытокі, карані, культурна-эстэтычную глебу, якія прадвызначылі колеравую гаму нашага сцяга, вывучыць яго гістарычных папярэднікаў (сцягі вялікіх князёў, военачальнікаў, харугвы вайсковых падраздзяленняў, сцягі адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак), на якіх у розных варыяцыях спалучаліся белы і чырвоны колеры: пурпуровыя палосы і крыжы на белым фоне, белая выява конніка з узнятым мячом на чырвоным шчыце або палотнішчы і г. д. Другая справа — высветліць час і грамадска-палітычныя абставіны ўзнікнення, а, па магчымасці, і аўтарства эскіза сучаснага бел-чырвонага-белага сцяга, прасачыць яго паступовае прызнанне нацыянальным і дзяржаўным сімвалам беларусаў. Шукаць у XIII альбо XVI стагоддзях факты выкарыстання ў якасці агульнанацыянальнага беларускага сімвала акурат такога ж палотнішча, якое лунае сёння над будынкам Вярхоўнага Савета ці Домам урада ў Мінску — занятак бесперспектыўны. Па той хаця б прычыне, што нацыі як сацыяльна-этнічныя супольнасці, а адпаведна і іх сімволіка, фарміраваліся ў больш познія часы. Беларусам, паўторымся, адзначаная заканамернасць тым больш уласціва. Але гэта яшчэ не падстава для таго, каб, фігуральна кажучы, зараз жа ўзбірацца на згаданыя велічныя гмахі і скідваць долу наш дзяржаўны штандар як бязроднага самазванца.

Зрэшты, аўтары кнігі, над якой тут разважаем, не прапануюць такога сумніўнага кроку. Яны праводзяць слушную думку, што адносна нядаўняе — у першым ці другім дзесяцігоддзях XX стагоддзя — набыццё бел-чырвона-белым сцягам вартасці беларускага нацыянальнага сімвала зусім не з'яўляецца яго недахопам і не павінна ўспрымацца як нейкая загана, дэфект нашай нацыянальнай годнасці. Дзеячы беларускага Адраджэння пачатку стагоддзя, якім належыць заслуга дапасавання старажытных культурна-гістарычных традыцый да патрэб народа на этапе яго кансалідацыі ў самастойную нацыю, паклалі, напэўна ж, не менш важкія цагліны ў будынак нашай незалежнасці, чым сярэдневяковыя князі ды ваяры. Таму, калі мы не збіраемся змарнаваць здабыты суверэнітэт, нам не да твару цурацца ці саромецца спадчыны адраджэнцаў толькі з-за таго, што яна храналагічна бліжэйшая да нас.

Каб наблізіцца да адказу на пытанне пра аўтара і час стварэння сучаснага трохпалоснага відарысу сцяга, А. Басаў і І. Куркоў паспрабавалі прывесці ў сістэму і асэнсаваць вядомыя ўжо ў літаратуры факты выкарыстання бел-чырвона-белага сцяга ў 1917—1920 гг. На жаль, гэтую спробу таксама нельга прызнаць удалай. Адчуваецца, што аўтары з цяжкасцю арыентуюцца ў бурлівых падзеях таго пераломнага для нашай гісторыі часу. І прычыну гэтага нескладана заўважыць: яны абмежаваліся звесткамі, запазычанымі з сённяшніх, пераважна газетных публікацый, але не звярнуліся да першакрыніц — гістарычных дакументаў і тагачаснай перыёдыкі. Бо калі б яны гэта зрабілі, дык не назвалі б, да прыкладу, газету В. Ластоўскага "Гоман" часопісам, а ўзначаленую ім арганізацыю "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі" — "Сувяззю незалежнай Беларусі". Першакрыніцы дапамаглі б аўтарам кнігі даведацца, што ў час працы Першага Усебеларускага кангрэса, які адбываўся ў снежні 1917 года, Беларускі нацыянальны камітэт не мог займацца ўдасканальваннем нацыянальнага сцяга, бо быў скасаваны яшчэ ў ліпені.

*(Працяг на стар. 12)*

— Канечне, заўсёды хочацца, каб было яшчэ лепш. Але, тым не менш, я лічу, што ў нашай літаратуры ёсць дастаткова імён (розных узростаў) і твораў (розных аўтараў), з якімі не сорамна было б любой літаратуры свету. Пачну з паэзіі. Можа, гэта будзе асабістае стаўленне да каго-небудзь, але я назаву... Алеся Звонака. Проста цяжка сабе ўявіць, каб чалавек пражыў 88 гадоў (з іх 20 на катарзе!) і пісаў бы такія вершы. Павучыцца трэба! Максім Танк... Я памятаю яго першы ўзлёт у Заходняй Беларусі. Тут, ва ўсходняй, ужо не было ні Дубоўкі, ні Пушчы, ні Хадыкі, а там раптам проста-такі феерычны ўздым Танка! Я дагэтуль не магу без хвалявання перачытваць і ўспамінаць ягоныя першыя вершы. Ён з тых камуністаў, каторых я паважаю, бо ягоныя перакананні аплачаны шчырасцю і пакутамі яго. Я мог з ім не згаджацца, бо я больш талстовец, пацыфіст у сваіх поглядах, а ён рэвалюцыянер; але яшчэ раз паўтару: я яго паважаю, таксама, як паважаў сваю маму і брата свайго, святара.

Далей назаву Куляшова, Панчанку — пашукаць трэба такіх паэтаў! Аднатомнік кожнага з іх зрабіў бы гонар любой паэзіі свету. Былі ў нас выдатныя паэты, якія, на жаль, заўсёды ішлі недзе ў цяню: Пысін, Дзяргай... Любіў і люблю паэзію Караткевіча. Заўсёды з прыемнасцю чытаю Барадуліна, Зуёнка. Калі гаварыць пра яшчэ маладзейшых, вельмі высока стаўлю для сябе Лёню Дранько-Майсюка (у 3-м нумары "Крыніцы" — проста выдатная яго паэзія)...

Цяпер — проза. Пачаць можна ну хоць бы з Ядвігіна Ш. У нас неяк павялося, што Ядвігін Ш. пісаў нейкія там навелкі, звычайна з хэпі-эндам. А хто з вас чытаў яго незакончаны раман "Золата"? А гэта ж такая проза, што з прыемнасцю падпісаўся б пад ёю кожны. Тады — Колас... Праўда, у трылогіі яго я прызнаю толькі першую частку, далей пайшло слабей, а трэцяй кнігі наогул лепей бы і не было. Яе трэба было не на стол, а ў стол напісаць, і не так паказаць братоў Луцкевічаў, "Нашу Ніву" і ўвесь той час. Далей — Гарэцкі... Гэта — вялікая з'ява. У 49 гадоў чалавека застрэлілі, перад тым вымучыўшы, і ўсё-такі ён столькі паспеў. Нашай літаратуры, канечне, не пашанцавала. У нас быў бы проста геніяльным пісьменнікам Лукаш Калюга, калі б на 25-м годзе не загінуў. Кузьма Чорны гэтаксама не адбыўся цалкам як празаік, хаця многа і зрабіў, і адпакутаваў за свае 44 гады. Зарэцкі быў добрым пісьменнікам, але ён больш лягчэйшага плана — белетрыст. Іван Мележ... Слабыя былі яго першыя ваенныя рэчы, а як шугануў ён уверх потым — першай кнігай сваёй трылогіі!.. Зрэшты, працягваць пералік нашых выдатных пісьменнікаў і паэтаў можна было б яшчэ доўга... І абавязкова кагосьці, самага добрага, забудзеш...

Цяпер у гэтай калатнечы шукаюць і вінаватых і правых і знаходзяць іх не заўсёды там. І многа сабак вешаюць на старэйшых пісьменнікаў, маўляў, і такія мы, і сякія... Ды каб тады нас не было, не было б нічога. Мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў назаўтра пасля дня перамогі, 10 мая 1945 года, я быў 44-м (Мележ — 43-м) па колькасці. Гэта ж так задушылі, так заглумілі, што нікога амаль не засталося... І пазней, ужо ў застойныя гады, гады страшэннай русіфікацыі, калі ўжо дайшло было, што хацелі аб'ядноўваць часопісы "Полымя" і "Маладосць", рабіць іх з перыядычнасцю раз у два месяцы, у мяне заўсёды было адчуванне, як нас з кожным днём усё меншае і як гэта страшна... Гэтак у старасці чалавек адчувае, што ў яго з кожным днём усё менш і менш сяброў. (Часамі, калі мне сумна ці цяжка на душы, я бяру тэлефонную кніжку, і ўжо, бывае, немагчыма знайсці чалавека, катораму можна пазваніць.) А зараз у мяне такое адчуванне, што як бы там ні было, якія б вар'яты ні прыйшлі да ўлады, — неяк усё ж будзе, у душы ў мяне аптымізм ёсць. Бачу, што нас робіцца ўсё больш і больш. Можа, вы і самі не разумееце (і добра, што не разумееце) — але як гэта ўсё ж хораша, што вы ідзяце ў літаратуру, ідзяце ў родную мову. І дай вам Божа поспеху. Не будзем думаць і гадаць, хто з вас стане пісьменнікам, у якой меры стане пісьменнікам, наколькі таленавітым, наколькі плённым... Хаця мой узрост ужо дае мне права меркаваць вось пра што: пакаленні мяняюцца, і чамусьці кожнаму пакаленню здаецца, што яно найлепшае; маўляў, вось мы пакажам! Як шумелі нядаўна "Тутэйшыя", а потым вы паглядзіце: некаторыя з іх падаліся ў рускамоўную мутную "выдавецкую дзейнасць", іншыя ў беспрасветную п'янку або ў цёплыя заморскія прымы... А між тым пакаленне гэтае ці не найбольш крыклівае было!

Трэба сціпласць ва ўсім — у жыцці і ў літаратуры. Трэба думаць найперш пра ўзбагачэнне свайго духоўнага жыцця, трэба вучыцца, чытаць, вывучаць мовы. Дарэчы, гэта ж проста наша бяда — мы не валодаем мовамі. Нам, беларусам, чакаць, пакуль нас будуць перакладаць на еўрапейскія мовы, — так вельмі доўга можна чакаць. Раней нас ведалі (Быкава і другіх) толькі па рускіх перакладах. Цяпер жа мы павінны самі паказваць сваю літаратуру свету, а для гэтага трэба ведаць мовы. Ну, а сам я ведаю польскую, украінскую, у нейкай меры — нямецкую...

*(Працяг на стар. 14-15)*

Часопісы ў лютым

# У БЕЛАРУСА — СЦЕЖКА СВАЯ...

Адыходзяць, паступова адыходзяць з жыцця тыя са старэйшых пісьменнікаў, без чыёй прысутнасці немагчыма ўявіць сучасную літаратуру. Нядаўна не стала і Анатоля Вялюгіна. Адно застаецца — памятаць яго, а яшчэ ёсць магчымасць пазнаёміцца з новымі творамі паэта. Анатоль Сцяпанавіч (гэта, бадай, ведалі многія) належаў не да тых, хто спяшаецца прапаноўваць напісанае ў друк, быў у яго і перыяд, калі амаль зусім не працавалася. Але апошнім часам як бы з'явілася другое дыханне. Гэта засведчыла і не такая даўняя лімаўская падборка. А яшчэ ў большай ступені — яго вершы з кнігі "Заклён на скрутны вір". Апошняй кнігі, у якой паэт так і не паспеў паставіць жаданую кропку, засведчыўшы, што тое, чым жыў, нарэшце, здзейснена.

Творы з гэтай кнігі — у лютаўскай кніжцы "Полымя". Імі яна і адкрываецца. Усяго сем вершаў. Думаецца, чытач па вартасцях ацэніць значнасць іх, адчуўшы асалоду ад сустрэчы з сапраўднай паэзіяй. Колькі слоў толькі пра апошні ў нізцы. "Закляты год" — гэта як прадчуванне таго непазбежнага, што абавязкова мусіць адбыцца. Ды не калі-небудзь, а ў бліжэйшы час:

**Мяне вяло па сцежках**
**ляснога клічу рэха.**
**"Ці доўга жыць?" — у птушкі**
**спытаўся прастарэка.**

**Адно скупое ку-ку,**
**і змоўкла варажбітка,**
**мне толькі год**
**(акрайчык)**
**пакінуўшы на жытку.**

Пад вершам пазначана: "1994". Вось і думай пасля гэтага, разважай, гадай, што і да чаго... Болем (цяпер, зразумела, болем, а калі пісаліся дык спадзяваннем на лепшае) успрымаецца заключная страфа твора:

**Ці спраўдзіцца надзея**
**сустрэць вясну другую,**
**як дома без супынку**
**вястушка закукуе?**

Не спраўдзілася надзея. А калі і закукуе вястушка, то некаму іншаму, які таксама будзе ўслухоўвацца ў яе куванне і лічыць свае гады.

Такое яно, жыццё чалавечае. У кожнага — сваё, няпростае і складанае.

З гэтай жыццёвай складанасці нарадзіўся і раман М.Сяднёва "Раман Корзюк". Не сёння ён пісаўся, а на працягу 1957—1984 гадоў, але толькі цяпер, дзякуючы Б.Сачанку, з'явіўся ў "Полымі". Змешчаны пакуль пачатак, аднак многія з гэтым раманам М.Сяднёва знаёмы па замежным выданні (ёсць яно і ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі). Праўда, як сведчыць у прадмове "Твор будзе прачытаны" Б.Сачанка, "для публікацыі ў "Полымі" аўтар многае паправіў, перапісаў і скараціў, словам, аднёсся вельмі сур'ёзна, як дарэчы, і да публікацый усіх сваіх твораў на Бацькаўшчыне".

Як стварaўся гэты раман, гаворыць у прадмове да твора, пазначанай яшчэ сакавіком 1985 года, сам аўтар. Ён ставіў за мэту сказаць уласнае слова пра "беларускі нацыяналізм, пра "нацдэмаўшчыну" і пра "нацдэмаў", пра змаганне з імі савецкіх органаў бяспекі. Або дакладней — пра пошукі беларускай моладдзю, у прыватнасці студэнцкай моладдзю 30 гадоў свае, нацыянальнай Беларусі, пра трагізм гэтых пошукаў. У аснову твора пакладзены не толькі асабісты вопыт аўтара, але ўзяты на ўвагу і вопыт беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў цэласці, што сталася ахвярай чыстак, якія праводзіліся НКВД падчас змагання з гэтак званым "буржуазным нацыяналізмам", што быў абвешчаны савецкімі партыйнымі ідэолагамі ў 30-х гадах "галоўнай небяспекай" для цэласці савецкай імперыі".

М.Сяднёў падкрэслівае, што "амаль усе персанажы твора — гэта канкрэтныя, не выдуманыя людзі з іхнімі сапраўднымі прозвішчамі. Апрача студэнтаў, настаўнікаў, пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў у кнізе фігуруюць вядомыя беларускія дзяржаўныя дзеячы, палітыкі, вучоныя, уключна з міністрам былога ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). У кнізе засяроджана ўвага на допытах "нацдэмаў" у НКВД і на іхніх паказаннях".

Угадваюцца аўтабіяграфічныя моманты і ў вобразе галоўнага героя Рамана Корзюка. Ужо нават сам дакументалізм (пры напісанні рамана аўтар меў пад рукой асобныя публікацыі пра той час у эміграцкіх выданнях, але ў многім вымушаны быў карыстацца толькі ўласнымі ўспамінамі пра тое, пра што даведаўся пад следствам і ў лагерах, чуў ад сяброў па няволі) заслугоўвае таго, каб да твора паставіцца з асаблівай цікавасцю. Не будзем забываць і таго, што пра ўсё М.Сяднёў паведаў тады, калі беларуская літаратура па сутнасці яшчэ маўчала. Вядома, былі раман І.Шамякіна "Сэрца на далоні", даволі шматлікія паэтычныя творы, у тым ліку і верш А.Наўроцкага "Размова з Уладзімірам Ільічом"... Але нават калі б нехта асмеліўся тады прывесці факты, якія згадвае М.Сяднёў, ніхто б напісанае не асмеліўся б пусціць у друк, а сам аўтар меў бы вялікія непрыемнасці.

Але пра раман, як пра мастацкі твор... Будзем справядлівымі, яму часам бракуе псіхалагізму. Найперш гэта тычыцца ўзаемаадносін галоўных герояў Рамана Корзюка і Валі Камоцкай. Так сказаць, у інтымна-асабістым плане аўтар не заўсёды пазбегнуў гнеўна-выкрывальнай публіцыстычнасці, што больш падыходзіць да якога-небудзь артыкула. Аднак, робячы заўвагі М.Сяднёву, нельга забываць, у якіх умовах ён працаваў. Вось прызнанне самога Масея Ларыёнавіча: "Наогул жа, часу працаваць над творам у мяне было вельмі мала, сіл — яшчэ менш, і я не раз схільны быў пакінуць сваю задуму — напісаць празаічны твор. Напісаць верш я мог і ў памяці, стоячы за тым ці іншым варштатам на фабрыцы. Але не тое з прозай. І толькі заахвочванні з боку некаторых нашых літаратараў, у прыватнасці, з боку рэдактара часопіса "Конадні", у якім былі надрукаваныя першыя раздзелы рамана, схілялі мяне брацца за свой даробак зноў".

Будні скоўвалі творчыя магчымасці пісьменніка, тым не менш раман пісаўся — пакутліва, марудна, але пісаўся. І цяпер, калі чытаеш яго, адразу заўважаеш, што гэта не толькі мастацкі твор, а кніга, што ўспрымаецца грамадзянскім учынкам. Ды і вобраз галоўнага героя — гэта і лёс у многім надломленага пакалення, пазбаўленага з гадамі ідэалаў маладосці, растаптанага маральна. Многія ж былі вынішчаны і фізічна. Але з тых, што выжылі, некаторыя, нягледзячы ні на што, захавалі чалавечнасць, не азлобіліся на людзей. Да апошніх належыць і Раман Корзюк.

Вартасць рамана і ў тым, што ў ім, кажучы словамі самога аўтара, "выведзены вобраз "тэарэтыка" ў беларускім пытанні, што, каб наладзіць адкрыты працэс "нацдэмаў", шукаў усюды адпаведных для працэсу "мадэляў", апрацоўваў іх, карыстаючыся самымі неверагоднымі метадамі". Гэты "тэарэтык" — адзін з кіраўнікоў НКУС Цімошка. Слухаеш, як Цімошка па просьбе Бергмана на нарадзе ў НКУС дзеліцца вопытам "работы", робячы найпершы захад на тэарэтычныя абгрунтаванні чэкісцкай дзейнасці, і холад прабягае па целе. З гонарам, хоць і разумее, што "нацдэмаўская арганізацыя" міфічная, гэты злачынца абгрунтоўвае неабходнасць дзейнічаць менавіта так, а не інакш: "Ну, а калі прыйшло натхненне, страшэннае, д'ябальскае натхненне чэкіста — вы самі ведаеце, — можна паверыць у сапраўднасць існавання не толькі нацдэмаўскай арганізацыі, але й у тое, што ты — гэта не ты. Памятаеце, паверыў жа я некалі, што мая жонка — польская шпіёнка".

Як бы дапаўненнем да ўспрымання тых жудасных часоў — артыкул Р.Платонава "Маё чэкісцкае чуццё падвяло..." Каторы раз аўтар прыводзіць дакументы, якія не адно дзесяцігоддзе лічыліся асабліва сакрэтнымі і доступ да якіх мелі толькі самыя-самыя... З гэтых матэрыялаў таксама бачна, як сістэма насілля падаўляла чалавека ў чалавеку, а таталітарызм знішчаў асобу.

Калі чытаеш апавяданні В.Казько "Недараванне" і "Ля трох сосен", апублікаваныя ў "Нёмане" і напісаныя яшчэ ў 1965 годзе па-руску, разумееш, чаму яны ў свой час не трапілі ў друк. Канечне, гэтыя творы не беззаганныя ў мастацкіх адносінах, аўтару не заўсёды ўдаецца належным чынам саўладаць з багатым фактычным матэрыялам, але ж, безумоўна, спрацоўвала і іншае. Пра тое, пра што расказвае В.Казько, тады не прынята было гаварыць, такую праўду не ўспрымалі, яна настойліва замоўчвалася. Патрабавалася лакіроўка не толькі сучаснасці, а і таго, што звязана з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Малады ж пісьменнік асмеліўся напісаць, не пабаяўся гэтай праўды, такой страшнай і разам з тым гэткай неабходнай дзеля далейшага ачышчэння грамадства, у імя яго маральнага ўдасканалення.

Дарэчы, гэтая праўда тых ваенных часоў закранаецца і ў артыкуле А.Літвіна (таксама "Нёман") "Белыя плямы" другой сусветнай", у якім на падставе нямецкіх дакументаў адлюстраваны польска-нямецкія кантакты на тэрыторыі Беларусі і Віленшчыны. Таксама ёсць над чым задумацца, паразважаць.

Разбіраемся як след, імкнёмся зразумець, што і да чаго ў нядаўнім мінулым, а што ўжо казаць пра гісторыю даўнюю, схаваную за смугой стагоддзяў? Пра яе таксама доўгі час лічылі за лепшае маўчаць, асабліва пра тое, што справа тычылася ўзаемаадносін з Расіяй, ды і наконт стасункаў з Польшчай не пра ўсё дазвалялася гаварыць. Цяпер забароненых тэм як быццам няма. Затое цяпер, як ні дзіўна, хапае жадаючых кідацца ў крайнасці. Думаецца, у сувязі з гэтым варта ўважліва пазнаёміцца ў "Полымі" з артыкулам У.Казберука "Туга па родным бязмоўі". Аўтар палемізуе з В.Грыцкевічам, Г.Сагановічам адносна некаторых момантаў у нашай нацыянальнай гісторыі.

Любая спрэчка ёсць спрэчка і тут наўрад ці можна катэгарычна сказаць, што нехта мае рацыю, а той памыляецца. Як кажуць, у дадзеным выпадку ісціны ў апошняй інстанцыі проста быць не можа. Але гаворка зусім не пра гэта. Тады пра што? А пра тое, што няма аніякай патрэбы кідацца з боку ў бок. Раней нам (няхай і па ідэалагічным прымусе) Расія была "мёдам мазаная", цяпер жа сёй-той гатовы бачыць у колішняй Польшчы ледзь не самага лепшага сябра. Сапраўды, як слушна зазначае У.Казбярук, "вечная і заўсёды такая актуальная праблема ўзаемаадносін з суседзямі, з якіх то адны, то другія станавіліся гаспадарамі нашага лёсу". І тут жа, у заключэнне артыкула, У.Казбярук прыводзіць малавядомы верш З.Бядулі "Тры сцежкі", апублікаваны ў свой час у "Вольнай Беларусі" (1917, 31 снежня), а ў ім такія заключныя радкі:

**Ідзі, беларус, толькі сцежкай сваей!**
**Сцежкай сваёю**
**Да Сонца ідзі!**

На тым У.Казбярук і кропку ставіць. І яна як нельга да месца, бо не хто іншы, а З.Бядуля даў адказ на тое, у чым сёння так цяжка прыйсці да нейкай памяркоўнасці тым, хто аднолькава руліцца аб нацыянальным Адраджэнні, каго аднолькава хвалююць пытанні беларускай дзяржаўнасці, — цяперашнія, і ў далёкім мінулым.

А чытачам, як надарыцца вольная часіна, параіў бы ўважліва пазнаёміцца і з чарговымі нумарамі "Маладосці" і "Беларусі", у якіх таксама шмат цікавых матэрыялаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# НА ПАСЯДЖЭННІ СЕКЦЫІ КРЫТЫКІ

Саюза пісьменнікаў Беларусі абмеркавана творчасць Алеся Бяляцкага і Уладзіміра Содаля. Абодва яны добра вядомы нашым чытачам, рэгулярна выступаюць у перыёдыцы, маюць кніжкі. У. Содаль — старэйшы па ўзросце, колькасць кніжак у яго набліжаецца да дзесяці. Асабліва шмат увагі ён надае даследаванню жыцця Ф. Багушэвіча, высвятленню самых розных абставін, звязаных з яго дзейнасцю, біяграфіяй, акружэннем знакамітага пісьменніка. А. Бяляцкі таксама не цураецца даследчыцкага пошуку. Гэта дзякуючы яму апошнім часам убачылі свет такія цікавыя кнігі, як выбранае таленавітага прадстаўніка беларускага замежжа Я. Юхнаўца "Сны на чужыне", знакамітая дакументальная аповесць Ф. Аляхновіча "У кіпцюрах ГПУ", апублікаваныя ў перыёдыцы творы А. Смалянца, К. Езавітава і іншых. Акрамя таго, А. Бяляцкі, працуючы дырэктарам Літаратурнага музея М. Багдановіча, шмат робіць дзеля вывучэння і прапаганды жыцця і творчасці Максіма-кніжніка.

У гаворцы прынялі ўдзел П. Васючэнка, Г. Кісялёў, М. Тычына, Э. Акулін, Л. Савік і іншыя. Вёў пасяджэнне старшыня бюро секцыі крытыкі М. Мушынскі.

Разгледжаны таксама некаторыя пытанні надзённай работы секцыі, яе ўдзелу ў літаратурным працэсе і жыцці.

А. Бяляцкі і У. Содаль рэкамендаваны да прыёму ў Саюз пісьменнікаў.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЫЕМНА БЫЦЬ... ЛАЎРЭАТАМ

У гэтым можна было пераканацца ў Доме літаратара на сустрэчы з лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за 1994 год у галіне літаратуры і мастацтва. Віноўнікаў урачыстасці, бадай, няма патрэбы называць нашым чытачам: паведамленне аб прысуджэнні прэмій змяшчалася ў "ЛіМе", а цяпер штотыднёвік працягвае знаёмства з лаўрэатамі. Хіба што застаецца сказаць, што ўсе яны пачулі нямала шчырых, сардэчных, прачулых і, безумоўна, справядлівых слоў. Прынамсі, народны артыст І.Лучанок хораша гаварыў пра А.Бандарэнку (на жаль, сам кампазітар на сустрэчу прыехаць не змог) і Л.Захлеўнага. На вечары былі паказаны ўрыўкі з фільмаў, створаных лаўрэатамі, выступіў ансамбль народнай музыкі "Бяседа".

## ВЯЛІКАЯ ПРАЎДА ВЯЛІКАЙ ВАЙНЫ

Як паведамлялі ўжо, выдавецтва "Мастацкая літаратура" мяркуе выпусціць у бліжэйшы час шэраг збораў твораў вядомых пісьменнікаў. Сярод іх — і шасцітомнік народнага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Івана Чыгрынава. Нядаўна з'явіўся першы том, які склалі раманы "Плач перапёлкі" і "Апраўданне крыві". Прадмову да тома напісаў Уладзімір Юрэвіч. Ён, у прыватнасці, зазначае: "Іван Чыгрынаў працуе ў той класічнай манеры, калі за кожным персанажам адчуваеш чалавека пэўнага рэгіёна, гэтак насычана іхняе жыццё рэальнымі фактамі, прысутнымі толькі на Магілёўшчыне, толькі ў Прыдняпроўі, а ў выніку ўзнікае тая багатая палітра фарбаў, адчуванняў, характару думання і манеры гаварэння, якую не зблытаеш ні з кім". Прэм'ера першага тома І.Чыгрынава прайшла ў Доме кнігі. Слова пра аўтара сказаў галоўны рэдактар "Мастацкай літаратуры" М.Кусянкоў. Цёпла сустрэлі прысутныя выступленне пісьменніка.

## ВЫБРАНЫМ З НАПІСАНАГА І ПЕРАЖЫТАГА

стала кніга Фёдара Янкоўскага "Радасць і боль", якая пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Дзякуючы С.Янкоўскай, пад адной вокладкай сабраны лепшыя апавяданні, навелы, мініяцюры знакамітага пісьменніка, якія перад гэтым былі прадстаўлены ў зборніках "Абразкі", "Прыпыніся на часіну", "І за гарою пакланюся" і іншых. Для Ф.Янкоўскага, як вядома, характэрна глыбокае веданне жыцця, тонкае адчуванне слова. Акурат на гэта звяртае ўвагу і аўтар прадмовы Генадзь Шупенька, даючы высокую ацэнку таму, што з'явілася з-пад пяра гэтага выдатнага беларускага пісьменніка.

## СВЯТА ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ

У бібліятэцы N 18 г.Мінска адбылася сустрэча выхаванцаў школы-гімназіі N 93 з пісьменнікамі і супрацоўнікамі выдавецтва "Юнацтва".

Загадчыца бібліятэкі Т.Кучанкова падрыхтавала для юных чытачоў стэнд з творамі М.Пазнякова і Я.Хвалея, пазнаёміла з іх творчасцю. Галоўны рэдактар выдавецтва расказаў пра выпуск літаратуры для дзяцей і юнацтва.

Дзве гадзіны доўжылася сустрэча з чытачамі. Роднае слова гучала ў цішыні залы па-веснавому мілагучна і натхнёна. Паэты чыталі свае вершы пра сучаснае і будучае, каханне і вясну.

На развітанне юныя чытачы атрымалі аўтографы.

М.ЗЕЛЯНКОВА

## БЕНЕФІС "ПЕРШАЦВЕТАЎЦА"

У Баранавіцкай бібліятэцы імя В.Таўлая прайшоў бенефіс мясцовага настаўніка, паэта, выканаўцы ўласных песень Алеся Бокача. У гэтым мерапрыемстве прынялі таксама ўдзел мясцовыя паэты з літаратурна-музычнай гасцёўні "Крыніца" Генадзь Ґапановіч, Анатоль Станкевіч, Ян Збажына і іншыя. Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з часопісам "Першацвет" (N 11 за 1994 год), у якім змешчаны творы А.Бокача і Я.Збажыны, іншымі публікацыямі віноўніка ўрачыстасці.

М.МАЛІНОЎСКІ

Паэзія

Аляксей РУСЕЦКІ



# НІВА НАША Й ПЕСНЯ АЖЫВЕ

### ПАД ЗНАКАМ "ПАГОНІ"

Ты гэткай снішся, родная краіна:
набегаў гул і войнаў кроў і плак,
хоць прашчур наш
у спадчыну пакінуў
нам сімвал моцы, перамогі знак.

Дзесь у вяках званы
трывожна звоняць,
там, у пажарах, узгараўся гнеў,
і вораг з бітвы драпаў, а з "Пагоняй"
крылаты коннік наўздагон ляцеў.

Гартоўным мечам і рукою смелай
спрэс баранілі сельбішчы свае...
Зноў Беларусь красой чырвона-белай
з глыбіняў часу ўпарта паўстае.

Яе так мусіць ашчаджаць і сёння
адважны, годны, родны чалавек;
усюды пад спрадвечнаю "Пагоняй"
і ніва наша й песня ажыве.

### ЯНУ ЧАЧОТУ

*Да блізкіх двухсотых угодкаў з часу нараджэння першага паэта новай беларускай літаратуры, мовазнаўца й фалькларыста.*

Шаноўны далёкі Ян Чачот,
прымі за талент словы падзякі,
якую шле мой сялянскі род,
хоць звестак-папераў аб ім — ніякіх.

Ружовы віленскі філарэт,
скуль мудрасць і чуласць твая,
каб першым
з юнацкаю музай на цэлы свет
узняць "мужычае" слова ў вершах?

Студэнтаў-сяброў узрушаў грамаду
і словам гэтым і думкай смелай
пра лёс ніцых вёсак, людскую бяду,
а шляхта ў палякі пайшла, злюцела.

Турма й выгнанне, жыццё між чужых
ды спелі задумы й надзеі нішкам,
што з песняй народа й вершаў тваіх
ускрыліся Вільня
за кніжкай — кніжку.

Бы з выраю птушкі, ляцелі яны,
узрушвалі душы ў іншым часе,
і ўжо неўзабаве, з мае старыны,
Тарас-палясоўшчык
дапяў да Парнаса.

І голас пачуўшы з боскай гары
свайго самавітага кемнага брата,
грымотна да ўсіх пачала гаварыць
уласнаю мовай мужыцкая Праўда.

Імперскі прайшла яна гвалт і здзек,
вырушвала, ўпартая, ў новы век
хлусні й надзеяў,
гулагаў крывавых...
Ды геній наш нацыянальны —
жыве!
Ён бачыць абрысы свае дзяржавы.

Яшчэ нашай мовы пачуўшы гук,
дранцвее ў злосці якісь чыноўнік,
як той каларадскі ад газы жук,
што наскае нівы
жарэ бульбоўнік.

Яшчэ не злічыць нашых стратаў,
пакут
ды верыцца ў розум явы новай...
Згадае й цябе ачунялы люд,
навечна з'яднаўшыся ў родным слове.

### ЛАТЫНЬ

Забыліся словы, складзенне
памерлае мовы даўно,
калісьці віном захаплення
пылала на вуснах яно.

І нашага поўнагалосся
гучала мядзяная плынь,
у ёй, як здаўна павялося,
пазваньвала срэбрам латынь.

Паэзія, часам, з навукай,
залішні каб сцішыць напал,
для яснасці сэнсу й гуку
лацінскі ўжывала метал.

Хапала нам срэбра й медзі
на бляск слова й думкі ды звон;
і сёння (о модус вівэндзі!..)* —
зноў гэты ж для моваў закон.

### ТАНГА

*Жить стало лучше, стало веселее...*
*І.СТАЛІН.*

Танга-згадка — музычная марка
маладосці, на ўцеху старым;
гуд і звон даўніх джазаў у парках,
патэфонны лірычны інтым.

Незабыўнай пары песня-танец,
шоргат ног, зачараваны круг,
і нямы дыялог пра каханне
блізкіх воч і расчуленых рук.

Ачмурэлы прылiў маладосці,
захапленняў, салодкіх пакут...
Асуджалі тым часам кагосьці
на адстрэл, як глушца на таку.

І плыло аргенцінскае танга,
чаравала напевам сваім,
і ніхто не чакаў, што пад танкам
заўтра ляжа ў кароткім баі.

Танга-згадка да болю кранальна
зноў гучыць даўняй песняю той
і бязгучнаю сентыментальнай
пагасае сухою слязой.

●

Клён пажоўклы — прыяцель паэтаў,
восеньскай журбы нямы слухач;
да яго ідуць у згадках лета,
пад ягоны лісцявейны плашч.

Мой стаяў калісь на прыгуменні,
слухаў ён як у пасад снапоў
словы я стаўляў тады з натхненнем,
ямб і дактыль —
стук двух, трох цапоў.

О цапы і тое "Слова" ў школе!..
Чэпі харалужнай малацьбы
на Нямізе... Потым гэтак — поле:
нашыя салдаты, як снапы...

Пад агністым і віхурным небам
не ўстаяў мой запаветны клён:
пад буханкай франтавога хлеба
не сустрэў знаёмую далонь.

Кроў і слёзы... лёс тады я зведаў,
што спрадвеку меў мой родны люд;
цяжка жыць ягонаму паэту,
несці крыўду ў сэрцы, гнеў і бунт.

Жыць, не траціць свае веры й чула
прыпадаць да роднага душой.
Мусібыць усё маё — ў мінулым,
новай мрояй не гарэць ужо.

І пішу цяпер я ў стылі рэтра,
смутку поўны, знанага здавён.
Хай ляціць мой ліст на хвалях ветру
да лістоты адляцелых дзён.

●

Дадому ехаў я
да любае сялібы,
здалёк мяне, здалёк
вітала вежа-ліпа.

Пад ёй, не першы год
ізноў жыла ў чаканні
адна душа-краса
з надзеяй на спатканне.

Сустрэчы прагу ў нас
ніколі не гасіла
працяг прасторы й час —
касмічнай моцы сілы.

Дадому ехаў я
з ваеннага замежжа,
над попелам сядзіб
чарнела ліпа-вежа...

Здавён цяпер штораз
мне ўсё журботней сніцца
праменнай чысціні
кахання Мілавіца.

### У САЦЬМЕЛЫМ САДЗЕ

Маўкліва лапушыцца лета,
у глозе змоўклі салаўі
і маладыя вочы кветак
не зззяюць без вачэй тваіх.

Лістоту вецер не варушыць
і цьмее ціхая трава,
тут без цябе дыханне ружы
паблізу болей не чуваць.

За дахам нікне дзень тужлівы
і змрокам поўніцца мой сум;
і нагадаў дарма твой прывід
мне тут жыцця ўсяго красу.

●

Згасае нізкая пагодня
зары барвовае заходняй,
узлесак восеньскай красой
палае, поўны цішыней;
Чувацъ лісця лятучы шоргат,
вады азёрнае маўчанне
за пасівелаю дарогай...
І мроіцца мне развітанне
з табою, дый з самім сабой.

### ГАЛАКТЫКА ЖЫЦЦЯ

Быў шэпт і гоман адкрыцця:
сігнал, у памятныя хвілі,
іншапланетнага жыцця
вучоныя мужы злавілі.

Пад пэўным над зямлёй вуглом
у вечар зорны, вечар хмуры,
лавілі, скептыкам назло,
сігнал адметнае структуры.

Выразна чуўся ён штораз
а дваццаць першае гадзіне,
радары чуйна ў гэты час
па лічбах стрэлкамі вадзілі.

Тым часам містэр малады,
адзін, сярод сівых вучоных,
смяяўся, згадваў ён тады
праявы моднага капрону.

Была вясна, цвіла вясна,
шумела кроў вясёлым хмелем...
Жаночы збоч пансіянат
нядаўна справіў наваселле...

Там перад сном здымалі з ног
капрон, прынаду нейчых мараў
іскрыла сотня пар панчох
і хваляваліся радары...

Нарэшце згас астральны свет
перад старымі ў іхняй сферы.
Ці ўкеміць гэта ў нас, як след,
чыноўныя пенсіянеры?

●

Пішу не сам, пішу не я
падзеяў дзённік вершаваны:
мой спадарожнік пастаянны
дыктуе мне свой лад і ямб.

І з-пад слухмянае рукі
ці нехлямяжа ці фарсіста
паўзуць па аркушы радкі
пякучых думак мутных,
чыстых...

Ужо цвяроза, пільна сам
чытаеш крэмзанае ўчора;
катуе часам сум і сорам —
няўжо ты гэткае пісаў?

Напэўна, ты стараўся, братка,
пусціць у свет нягеглы верш?
І што ж рабіць, як пазнаеш
на ім, чужым, сваю апратку?

*Modus vivendi (лат.) — умовы жыцця, існавання.

Проза

*Што я знаю? Ды многа чаго!.. Іншы раз думаеш, што варта ўжо даўно напісаць кнігу "Адзін дзень і ўсё жыццё". Ну, не дзень, то год напэўна. Але як жывое жыццё паступова адыходзіць, месяц за месяцам, так і задумы ўдаляюцца, нібыта ў густы туман...*

*Дык сапраўды — што я знаю? Напрыклад, пра тое, як партыйнымі і дзяржаўнымі органамі ініцыіраваліся, а дакладней, няйначай, ствараліся ў рэспубліках народныя франты. Але паколькі Беларускі народны фронт тым не менш шмат зрабіў за гэтыя гады дзеля адраджэння нацыі, то падобная акалічнасць адносна яго не мае значэння. Як кажуць, джын сам выскачыў з бутэлькі. Праўда, я да слова адраджэнне маю заўвагу: адраджэнне ўсё-такі пачалося шмат раней, затым стала квітнець у дваццатыя гады; цярпела і пакутавала ў трыццатыя, затым зноў нібыта выбухнула ў часе вайны; пасля развівалася, можна сказаць, з пераменным поспехам, прынамсі, мы здолелі стварыць сапраўдную літаратуру, калі меркаваць па асобных творах, мастацтва, тэатр... Гэта сёння можна пачуць, што ўсё, што было створана ў савецкія гады, не заслугоўвае месца ў сучаснай цывілізацыі; не, да распаду сацыялізму мы шмат сказалі і свайму народу і пра свой народ... Іншая справа, што на цяперашнім этапе грамадскага развіцця амаль усё паддаецца перагляду. У рэшце рэшт, шмат што на гэтым свеце мяняецца. Дранцвеючы, канаюць палітычныя сістэмы, разбураюцца імперыі, дарма што айцы-стваральнікі засноўвалі іх з марай на доўгія вякі... Але пры пераглядзе з'яў і падзей патрэбна быць не толькі рашучым; не менш важна быць таксама ашчадным. Адным словам, з бруднай вадой нельга выкідваць дзіцяці, якое мылі ў той вадзе. Бачыце, выходзіць так, быццам я ў гэтым сам сябе пераконваю, а вас угаворваю. Бясспрэчна адно — важна не толькі тое, хто цябе нарадзіў, важна — у што вырас.*

*Сёння, на экране тэлевізара, убачыў знаёмага пісьменніка. Як заўсёды, бадзёрага і самаўпэўненага. І раптам успомніў, што некалі, яшчэ ў так званы застойны час, ён вось так жа, як і я цяпер, лежачы на бальнічным ложку, накідаў свае развагі пра жыццё, пра людзей, даючы не зусім асцярожна свае ацэнкі некаторым літаратурным з'явам, пісьменнікам. А самае галоўнае было ў тым, што паспяшаўся надрукаваць іх. Пасачыўся злавесны поголас. Нарэшце, справа дайшла да таго, што найвышэйшы дом прымусіў нас абмеркаваць нататкі на прэзідыуме. Вядома, сярод членаў прэзідыума СП знайшліся людзі, якія палічылі патрэбным самым сур'ёзным чынам ушчуваць выдатнага пісьменніка. Тады я вельмі здзівіўся, што нават Максім Танк выказваў ледзь не абурэнне ім, бо Януг Іванавіч мала калі дазваляў сабе гэтага. Пасля я спытаў "вінаватага":*

*— Што вас змусіла выступіць з такой бескампраміснасцю?*

*— Ведаеш, — кажа, — ляжаў у бальніцы. А там якая абстаноўка? Вакол хворыя, часам думаеш, што і ты ледзь не назаўсёды трапіў сюды. Словам, такі настрой паганы быў, што...*

*Убачыўшы цяпер таго пісьменніка, я таксама падумаў сабе — ва ўсім патрэбна мера, нават калі ты апынуўся на бальнічным ложку. Але тым не менш, мне дужа хацелася б, напрыклад, расказаць пра дружбу двух народных пісьменнікаў, якая скончылася смерцю аднаго з іх. Здаецца, настаў час сказаць пра тое, як іншы раз асабістая непрыязнасць паміж некаторымі аўтарамі пераходзіла ў рэчышча літаратурнай барацьбы, у якую ўцягваліся цэлыя групы, падзяляючыся на прагрэсіўныя і рэгрэсіўныя. Не лішне было б прыгадаць і тое, як асобныя нашы пісьменнікі, уцякаючы з рэспублікі, выдавалі затым гэтыя свядомыя ўцёкі за вымушаныя, нібыта хтосьці "прагнаў" з дому ў чужы свет. Асабліва пасля таго, як у канцы васьмідзесятых гадоў у рэспубліцы змянілася ідэалагічнае кіраўніцтва. Ды ці мала аб чым варта было б напісаць? А між тым...*

Іван ЧЫГРЫНАЎ

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



## ЯК ПАЧЫНАЮЦЦА ВОЙНЫ

Кажуць, што войны пачынаюцца знянацку. Але ці так гэта? Іншая справа, што кожны, хто рашаецца напасці на суседа справа ці злева, спрабуе зрабіць гэта ў тайне, раптоўна, каб апярэдзіць праціўніка. Аднак, як правіла, пачынаюцца войны, калі імі ўжо набрыняе ўсё навокал, калі палітычныя страсці выходзяць на мяжу выбуху. Тады няважна, хто што спраўкаваў, хто каго перахітрыў. Гэта ўжо справа стратэгіі і тактыкі, калі яны ўвогуле існуюць, як і ваенная навука таксама. Усумніцца ў падобных рэчах дазваляе звычайная акалічнасць — яшчэ ні адна вайна не паўтарыла другую, і, можа, якраз таму пакуль не ўдалося нікому ні адну з войнаў перавяяваць нанава. Я глыбока перакананы, што мы дарэмна яшчэ і цяпер свае вялікія ахвяры ў мінулую вайну адносім за кошт раптоўнасці. Нечаканасць, а вярней — раптоўнасць яе была, няйначай, толькі для Сталіна. Тым часам мала хто ў Савецкім Саюзе памыляўся наконт немцаў. А вось жа дурань людзей нават і цяпер. Дарэчы, я хацеў сёе-тое паказаць у сваёй п'есе "Дзівакі". Прынамсі, як рыхтаваліся да вайны Гітлер і Сталін. Але мне тады зрабіць гэтага не дазволілі — яшчэ ва ўладзе быў Галоўліт. Пазней жа чамусьці не вярталася да гэтай праблемы памяць. Заўсёды знаходзілася іншай работы. Задумы напльвалі адна на адну. Словам, не да таго было.

Між тым, зусім нядаўна памёр той чалавек, які мне расказваў, што Сталін, няйначай, ведаючы пра гітлераўскі план нападзення на Савецкі Саюз, спрабаваў апярэдзіць фюрэра. Але чаму не рашыўся аб'явіць вайну Германіі першы, невядома. Можа, сапраўды краіна не гатова была весці яе. Увогуле, са Сталіным, яго ўчынкамі, яго паводзінамі шмат загадак, вярней, суцэльных загадак, калі не адна дужа вялікая, бо ягоная дзейнасць не паддаецца лагічнаму тлумачэнню. Таму заўсёды вакол гэтай асобы будуць домыслы. Іначай нельга. Але пачаў я расказваць пра чалавека, які меў арыгінальныя думкі пра пярэдадзень — з канца саракавога і да сярэдзіны сорак першага года — той вайны, што завецца цяпер Вялікай Айчыннай. Быў ён вучоны-гісторык, а на вайну пайшоў у чыне старшага палітрука.

Дывізію іхнюю накіравалі да граніцы месяцы за два, як пачацца баям. Везлі ў эшалонах. З вялікімі астаноўкамі. Асабліва доўга падраздзяленні стралковай дывізіі затрымаліся на мяжы з Беларуссю, у Арлоўскай вобласці. Бранскай тады яшчэ не было. Цяперашняя яе тэрыторыя ўваходзіла да сорак чацвёртага года ў Арлоўскую. Дык там, на мяжы з Беларуссю, палкі прастаялі ледзь не да сярэдзіны чэрвеня і ў Прыдняпроўе трапілі ўжо, калі корпус Пятроўскага стрымліваў гітлераўцаў на подступах да Гомеля. Не спяшаліся кідаць яе ў мясарубку, няйначай таму, што прызначалася яна на іншае, а менавіта — на вайну на чужой тэрыторыі. Па-першае, амаль кожнаму чырвонаармейцу і камандзіру былі выдадзены пад строгую распіску руска-нямецкія размоўнікі, за страту якіх салдаты караліся мацней, чым за страту патрона; па-другое, апранута дывізія была ва ўсё новае, пачынаючы ад скураных ботаў да сырамятных рамянёў; і, па-трэцяе, псіхалагічная падрыхтоўка да баявых дзеянняў на чужой тэрыторыі пачалося яшчэ ў лагерах на Волзе.

— Толькі пасля мне дадаткова стала вядома, — успамінаў былы старшы палітрук, — што на склады, якія знаходзіліся ў новым прыгранічны, увогуле былі завезены ў вялікай колькасці і скураныя рамяні, і камандзірскія торбы, і рэвальверныя кабуры, і боты... Мелася на ўвазе ў адзін прыстойны момант пераапрануць Чырвоную Армію, каб не выклікаць насмешак у тых жа немцаў, якіх мелася на мэце акупаваць у ходзе баявых дзеянняў вайны з Гітлерам. Але ўсё тое багацце ляснула на граніцы разам з рэгулярнымі арміямі. Разам з узбраеннем, з палівам. Разам з самалётамі і танкамі. Ды так ляснула, што арміі, якая стваралася па мабілізацыі, давялося абгортваць ногі яшчэ царскімі абмоткамі, дзягамі, браць у рукі вінтоўкі з шурпатымі бярозавымі прыкладамі. Увогуле, вялікая загадка, што ў сорак першым годзе мы ўтрымаліся...

Гаварыў ён пра ўсё гэта нейкім усё роўна як надтрэснутым голасам, з унутранай цяжкасцю, быццам і праўда няздольны быў дараваць Сталіну з ягонаю хеўраю пачатку вайны. А пачатак яе ён бачыў у перамовах Молатава з Гітлерам у саракавым годзе, пасля таго, як з ганьбаю была выйграна так званая савецка-фінская кампанія. У Вялікую ж Айчынную яму выпала прысутнічаць не толькі пры гібелі камкора Пяроўскага, які перад тым быў прызначаны на армію, але і пры іншых падзеях, што засталіся ў гісторыі мінулай вайны, напрыклад, пры апошніх хвілінах генерал-палкоўніка Кірпаносава, камандуючага Кіеўскай вайсковай акругі.

Дарэчы, пасля ягонай смерці засталася кніга, дакладней, застаўся рукапіс кнігі, дзе насветлены ваенныя падзеі, што адбываліся пераважна ўлетку і ўвосень сорак першага года (мне нават заманулася напісаць — з пазіцый сённяшняга дня насветлены, але гэта не так, хутчэй — з пазіцый сённяшняга ведання матэрыялу). Дык у тым рукапісе можна прачытаць рэчы, пра якія яшчэ і цяпер не дужа гавораць. Цяжка сказаць, праўда гэта ці не, аднак наш генеральны штаб к вясне сорак першага года нібыта сапраўды меў свой план развязвання вайны супроць гітлераўскай Германіі, які апярэджваў "Барбаросу". Называўся ён — "Навальніца", па-расейску гэта значыць "Гроза". Распрацаваны ён быў дасканала. Пад той наступальны план і падрыхтоўка войск адпаведна вялася. Таму і з новай абаранляльнай лініяй, так званай лініяй Молатава на беластоцкім выступе, не дужа спяшаліся. Прынамсі, доты ўздоўж граніцы заставаліся пустыя, без зброі і з іх, бадай, ніхто нават не страляў па ворагу ў тую чэрвеньскую раніцу, калі пачалася вайна...

Дзіўна, але такім дэталям, як скураныя боты, кабуры, камандзірскія торбы і рамяні, мой знаёмы вучоны-гісторык надаваў асаблівае значэнне. Ён бачыў ва ўсім гэтым тое, што не паддавалася асэнсаванню другім.

Канечне, пра план "Навальніца" лепей пачуць бы нам ад маршала Жукава ці Мерацкова, нават маршала Васілеўскага, які працаваў у той час начальнікам аператыўнага ўпраўлення ў генеральным штабе. Але так склалася, што першыя азваліся аб ім былыя лейтэнанты ды палітрукі... Недзе яшчэ ляжаць іхнія рукапісы, якія павінны некалі стаць кнігамі. Выйшла так, што генералы "паадпісаліся", а салдаты з лейтэнантамі ды палітрукамі — не. Між тым, генералы часцей расказвалі пра мінулую вайну, усё роўна як гуляючы ў яе. Мала, дужа мала пасля іх засталося сапраўдных кніг, пацверджаных дакументамі. Няйначай, што там будзе нарэшце раскрыта таямніца, чаму застаўся не ажыццёўлены папераджальны план "Навальніца"?

## ПЯНДЖ — РАКА ПАГРАНІЧНАЯ

Ездзілі мы з Петрусём Макалём у Таджыкістан, на 100-годдзе з дня нараджэння тамтэйшага класіка Айні. Пасля Душанбе пісьменніцкая дэлегацыя падзялілася на групы. Мне выпала ляцець на самалёце разам з Юрыем Сураўцавым і некаторымі іншымі паэтамі і празаікамі ў Кулябскую вобласць. Гэта за гарамі, туды, дзе паміж Афганістанам і Таджыкістанам цячэ пакручасты Пяндж. У Кулябе наша група зноў падзялілася. Нас з іркуцкім паэтам Маркам Сяргеевым павезлі ў Пархарскі раён. А там дарога падоўжылася — то на пагранічную станцыю, то ў калгас, то ў саўгас... Помню, надвечар першага дня прыехалі мы на погранзаставу, што на беразе Пянджа. Выступілі перад пагранічнікамі. Пасля слова за слова, і начальнік заставы пачынае расказваць, як зусім нядаўна, амаль напярэдадні нашага прыезду, перайшоў на савецкі бок селянін-афганец. Прасіўся, каб пакінулі яго працаваць у мясцовым калгасе. (Перад гэтым варта сказаць, што калгасы ў тым пагранічны былі тады заможныя). Але задаволіць ягоную просьбу не маглі, дарма што на заставе і спачувалі парушальніку граніцы. Справа ў тым, што паміж нашай краінай і Афганістанам існавала дамоўленасць аб выдачы перабежчыкаў. Вярнулі назад і таго.

— І што ж з ім зрабілі? — спыталі мы.

— Адрэзалі галаву, — адказаў начальнік заставы. — Афганскія пагранічнікі перавялі небараку на той бок ракі і тут жа, на нашых вачах, чык-чырык башку.

Між тым, назаўтра ўранні па радыё было зачытана паведамленне, што ў Афганістане за ноч адбылася рэвалюцыя. Да ўлады ў Кабуле прыйшоў камуніст Таракі. І мы пашкадавалі, што не дажыў да рэвалюцыі нядаўні парушальнік граніцы. Нам чамусьці думалася, што пры новай уладзе будзе адменена варварская дамоўленасць. Але начальнік заставы на нашае шкадаванне ўсміхнуўся, сказаў:

— І сёння, і заўтра было б тое самае. Можаце ўявіць сабе, колькі калодзежаў у Афганістане запоўнены за гэтую ноч трупамі. Ім чалавека зарэзаць амаль тое самае, што нам свінню.

І тым не менш, шкада было чалавека. Пра яго я расказваў у той год у Нью-Йорку Бабраку Кармалю, калі нас пазнаёмілі на адным з прыёмаў у будынку ААН. Бабрак таксама прыняў маё шкадаванне ледзь не з усмешкай. Нездарма кажуць, што ўсход — справа тонкая. Здаецца, танчэй ужо не бывае!..

Але я тым часам меў намер расказаць тут пра іншае. Пра тое, як частавалі нас з Маркам Сяргеевым на Пянджы смажанай беларускай папараццю. А пра святкаванне стогадовага юбілею Айні, пра Афганскую рэвалюцыю 1978 года — гэта так сабе. Трэба ж растлумачыць, з якой прычыны мы там апынуліся, а найбольш, бадай, чаму.

У Падхарскім раёне, уздоўж Пянджа, ёсць багаты калгас, прынамсі, быў тады. Не помню ўжо, як называўся ён. Але што заснавалі яго карэйцы, гэта дакладна. Дарэчы, разам з беларусамі, якія невядома калі там з'явіліся. Карэйцы, як мне здалося, былі задаволены рабацяшчымі беларусамі, беларусы — такімі ж рабацяшчымі карэйцамі. Справы ў гаспадарцы ішлі добра. Калгас на старыя, бальшавіцкія грошы жыў мільянерам. І вось у часе вячэры ў калгаснай сталоўцы на стол паставілі ў талерках страву, якая падалася мне вельмі знаёмай — смажаныя лісічкі. Паспытайце, паспытайце наша ўлюбёнае блюда, пачаў заахвочваць нас старшыня калгаса. Ужо амаль перакананы ў тым, што на стале сапраўды з'явіліся смажаныя лісічкі, я тым не менш спытаў, маўляў, што гэта. І як жа быў здзіўлены, пачуўшы ў адказ, — смажаная папараць. І чым далей, тым больш. Смаката ў папараці была такая ж, як і ў лісічак. І смажылася яна таксама паводле аднаго рэцэпту. Толькі і розніцы тае, што папараць без шапачак. Адны карэньчыкі. І дзе ж вы збіраеце папараць тут, пахваліўшы блюда, спытаў я. А нам з Беларусі прысылаюць, усміхнуўся старшыня. Зразумела, што я быў моцна ўражаны, ад здзіўлення нават гаварыць нейкі час не мог. Здавалася б, чаго не даводзілася ўжываць у якасці харчу ў галодныя гады, а вось пра папараць, што яе таксама можна есці, ніхто ў нас не ведаў. Ну, грыбы, ягады, шчаўе, нарэшце, ліпавае лісце... У гэтым, як кажуць, мы былі дасведчаны. Гэтым мы ратаваліся ад галоднае смерці. Тым часам выходзіла, што нейкія карэйцы спажывалі папараць. А гэтыя, таджыкскія, і ўвогуле смажылі нашу, беларускую. Пасля таго, бываючы ў лесе, я падоўгу прыглядаўся да нашае папараці. Аднак падступіцца да яе не мог, бо нічога не знаходзіў у ёй карыснага, прынамсі, вартага для ўжывання ў ежу, ажно пакуль не трапіў у госці да карэйскіх студэнтаў, што вучыліся ў нашым універсітэце. Аказваецца, для ўжытку карэйцы шукаюць парасткі, што растуць вясной на папараці, загортваючыся ў кольцы.

І вось цяпер, ужо глыбокай восенню, пасля Пакроваў, я ўспомніў у лесе пра тое, што беларусы, калі што якое, маюць магчымасць скарыстоўваць і яшчэ адзін харчовы прадукт, не горшы, чым тыя лісічкі, якія цяпер звычайна людзі выцярэбліваюць да голай зямлі. Іх купляюць у нас замежныя фірмы. Але не як грыбы для ежы, а як сыравіну для нейкае фарбы...

*(Працяг будзе.)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# СЁЕ-ТОЕ ПРА "ЗАБАРОНЕНУЮ" МУЗЫКУ

ЗАПРЕТНАЯ музыка С 30-Х ГОДОВ
ДМИТРИЙ ПОДБЕРЕЗСКИЙ
ЮРИЙ БУДЬКО
ВЛАДИСЛАВ КАСПЕРЧИК



**Кідкую назву мае новае выданне, што пабачыла свет дзякуючы мінскай ІРФ "Обозрение": "Забароненая музыка з 30-х гадоў" (тлумачальны слоўнік тэрміналогіі папулярнай музыкі, складзены Д. Падбярэзскім, Ю. Будзькам ды У. Касперчыкам). За адносна нядоўгі час існавання папулярнай музыкі (у сучасным разуменні гэтага паняцця) у гэтай галіне выпрацаваўся ўстойлівы лексікон, куды ўвайшлі як прафесійная тэрміналогія, так і спецыфічны слэнг, якім карыстаюцца музыканты, музыказнаўцы, меламаны, журналісты і проста моладзь — асноўны спажывец папулярнай музыкі. Гэтая добра выдадзеная кніжачка на 100 старонках дае тлумачэнні шырокаму спектру тэрмінаў і паняццяў, звязаных са светам папулярнай музыкі ад яе каранёў — джаза і блюза — да самых сучасных атожылкаў.**

**Тут можна знайсці і тлумачэнні плыняў ды стыляў, якіх ужо не адзін дзесятак, і "пераклад" на зразумелую мову жаргонных слоўцаў, накшталт "швайка" ды "сучок", і музыказнаўчыя тэрміны, і ўводзіны ў асновы гуказапісу, і шмат яшчэ чаго цікавага. Несумненна, гэты даведнічак будзе добрым падручным сродкам як для спецыялістаў — журналістаў, музыказнаўцаў, дыскжакеяў, — так і для простых меламанаў.**

**Як і кожнае выданне гэткага кшталту, слоўнік не вольны ад недахопаў. У асноўным гэта тычыцца транскрыпцый англамоўных назваў ("орчэстра") і недакладнасцяў у саміх гэтых назвах ("Lonely Heard Club Band"). Аднак, улічваючы, што патэнцыяльныя карыстальнікі новай кніжачкі, як правіла, валодаюць ангельскай мовай, гэтыя недахопы можна лічыць нязначнымі. Што ж датычыць зместу, дык ён выдатна сістэматызаваны, таму выданне вельмі зручнае ў карыстанні. А магчымыя спрэчныя моманты ў тлумачэнні асобных паняццяў, абумоўленыя рознасцю пунктаў гледжання спецыялістаў на іх, — усяго толькі вынік маладосці папулярнай музыкі як жанру, пра што і папярэджваюць аўтары ў прадмове. Наклад новага выдання абмежаваны, што можа стварыць пэўныя цяжкасці для жадаючых яго набыць. Праўда, ёсць тэлефон выдаўцоў: 62-06-86. Зацікаўленыя чытачы могуць пазваніць, і не без надзеі, бо кажуць, яшчэ не ўсю "Забароненую музыку" раскупілі...**

**С. Ш.**

# ВЫ ЧУЛІ... "ВЯЛЕСАВУЮ ЛЕКЦЫЮ"?

**Таварыства вольных літаратараў устанавіла своеасаблівую прэмію — "Гліняны Вялес" — аўтару лепшай паэтычнай кніжкі года, пры гэтым ставіцца ўмова, што прэтэндаваць на ўзнагароду мае права толькі той, хто не з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1993 годзе *Глінянага Вялеса* быў удастоены Ігар Бабкоў за зборнік вершаў "Solus Pex". А цяпер ТВЛ спыніла свой выбар на Людцы Сільновай, а калі канкрэтней, то на яе кнізе паэзіі "Рысасловы", выпушчанай летась выдавецтвам "Полацкае ляда". Уручалі ўзнагароду Л. Сільновай у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе і працуе паэтэса. Былі шчырыя віншаванні ад калег-бібліятэкараў і не менш шчырыя ад калег-паэтаў. Вершы чыталі Л. Галубовіч, Л. Дранько-Майсюк, С. Мінскевіч, І. Сідарук... Ну а сама Л. Сільнова належным чынам паставілася да ўзнагароды Таварыства вольных літаратараў і выступіла з... "Вялесавай лекцыяй".**

# МАЛАДЗЕЧНА КЛІЧА Ў ЛЕТА

## МАСТАЦКІ КІРАЎНІК ТРАДЫЦЫЙНАГА ЎЖО СВЯТА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ НАРОДНЫ АРТЫСТ БЕЛАРУСІ МІХАЛ ФІНБЕРГ СУСТРЭЎСЯ З ЖУРНАЛІСТАМІ.

Да лета, здавалася б, яшчэ й далекавата, але чаму б не пагаварыць пра будучы фестываль, калі падрыхтоўка да яго ідзе поўным ходам і сказаць ёсць што? Ва ўсіх абласцях краіны прайшоў першы тур конкурсу маладых выканаўцаў, і 36 з іх прадоўжаць спаборніцтва ўжо ў Мінску, у маі: камусьці пашанцуе трапіць і на трэці тур, які адбудзецца падчас фэсту "Маладзечна-95". Спадар Фінберг, дарэчы, назваў і канкрэтную дату: 9 чэрвеня. Гарачы будзе дзянёк, незалежна ад надвор'я: і праслухоўванне ўдзельнікаў конкурсу, і рэпетыцыі вячэрняй праграмы, і само адкрыццё — гала-канцэрт з удзелам, дарэчы, і пераможцаў леташняга фестывалю ў Маладзечне...

Склалася традыцыя пачынаць маладзечанскае свята своеасаблівай прэлюдыяй — канцэртам у Мінску, ля помніка Максіму Багдановічу, і пачынаць прэм'ерай новай песеннай праграмы. Сёлета гэта будзе кампазіцыя І. Паліводы на народныя тэксты, якую прадставіць Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Знаны калектыў будзе, вядома, незаменным удзельнікам і праграмы трох дзён у Маладзечне. Паводле традыцыі, гаспадыняй фестывалю стане беларуская музыка, песні на вершы беларускіх паэтаў: і ў паказе творчасці мінулых гадоў, і ў начным рок-канцэрце, і ў прэзентацыі новых салістаў ды калектываў, і ў час знаёмства з эстраднымі выканаўцамі, якія працуюць ва ўсіх абласцях краіны. Плануецца праграма "Шлягер года" і святочны вечар "Верасам — 25".

Асаблівасць сёлетняга Нацыянальнага свята песні і паэзіі — выкананне ўсіх праграм "жыўцом", без аніякага скарыстання фанаграм, так, як гэта робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце. А яшчэ — не будзе, як мінулым разам, такіх дарагіх (у літаральным сэнсе слова) гасцей, запрошаных з бліжняга замежжа. Магчыма, прыедуць толькі беларусы з Польшчы.

Заснавальнікі маладзечанскага фестывалю, як вядома, — тамтэйшы гарвыканкам, Міністэрства культуры і друку Беларусі, Дзяржаўны канцэртны аркестр, газета "Рэспубліка" і Нацыянальная дзяржаўная

# ВАЛЕРЫЙ МАСЛЮК: "НЕШТА ДЗЕЕЦЦА Ў ДУШЫ..."

***Праз шмат гадоў ВАЛЕРЫЙ МАСЛЮК вярнуўся ў тэатр, дзе калісьці дэбютаваў — Дзяржаўны акадэмічны імя Якуба Коласа. Розгалас пасля леташняй прэм'еры "Караля Ліра" ў ягонай пастаноўцы порстка дасягнуў вушэй зацікаўленых асоб ва ўсіх кутах Беларусі. "Падобна, — засведчыў крытык Рычард Смольскі, — вяртанне ў Віцебск шмат абяцае рэжысёру". Мастацкія вартасці гэтай (пакуль — адзінай цяперашняй віцебскай) пастаноўкі Маслюка мы яшчэ паспрабуем давесці (або абвергнуць) на нашых старонках; а вось з ім самім спатканні выпадаюць радзей за сустрэчы з ягонымі спектаклямі. І ўсё-такі на некалькі пытанняў удалося дастаць адказы.***

**— Трэці год, як ты, Валерый, у Віцебску, чацвёрты — як пайшоў з Рускага тэатра Беларусі, — так што без цябе ён ужо зрабіўся акадэмічным, але — з памяццю пра твае спектаклі...**

— Па логіцы мне трэба было б працаваць у Рускім, я пайшоў зусім не таму, што мяне хтосьці, перапрашаю, еў (а ідуць зазвычай менавіта таму, каб не з'елі)... Але пасля васьмі з паловаю гадоў была патрэба нешта мяняць. Увогуле, ты ведаеш, ёсць меркаванне, што трэба мяняць працу кожныя ці то пяць, ці то сем гадоў, мяркую толькі, што не заўжды гэта слушна. Ёсць жа прыклады, калі ў адным тэатры людзі працуюць усё жыццё... А я жадаў перамен. Нешта дзеелася з душою... Гэтаксама шчыра скажу: я не збіраўся ў Віцебск. Трапіў туды спачатку як намеснік старшыні СТД, — напэўна, каб зразумець, як мне там добра. Не толькі таму, што вакол былі знаёмыя твары ды ўсмешкі на іх: з'явілася нейкая ледзь улоўная душэўная раўнавага. Трэці год пайшоў пасля вяртання. Трэці год я ўпэўнены, што меў рацыю.

**— Якім ты знайшоў тэатр?**

— Добры будынак. Добрыя людзі. Добрыя акцёры, якія ў чымсьці страцілі форму: тое, чым яны жылі апошнія гады, не вымагала магутных душэўных трат. Прытым што былі і беларускасць, і забаўляльнасць, і высокія ідэалы, і брадвейскія аўтары... Мне здаецца, тэатр раскідаецца якраз тады, калі растрэніроўваецца душа. Я не магу сёння гарантаваць, што ўратую тэатр, але мне дужа карціць, каб ён зрабіўся такім, якім я яго ўяўляю...

**— А што, яго ўжо трэба ратаваць?**

— У пэўным сэнсе — трэба. Добры доктар мусіць своечасова выявіць хваробу. Як лекі, дарэчы — і мая заява пра тэатр класічнай драматургіі, але больш дакладна, ўсё-такі — проста першакласнай, старасвецкай ды сучаснай. Пакуль я спраўджваю гэтую заяву. Ты ж ведаеш, што значыць для нас каса. Але сплюгавіцца, стаўшы да гледача спінаю... Голаю... Практыка ўжо засведчыла, што на голыя спіны народ ходзіць, рыхтык як на адзетыя. Час такі — не да нас...

**— Не да нас. Я ўсё часцей думаю змяніць прафесію (балазе, шмат што ўмею)...**

— Я таксама шмат што ўмею: напрыклад, рабіць лепшыя ў свеце зэдлікі. Я — добры рыбак. Паўгода, як пайшоў з тэатра, працаваў таксістам. Змяніць прафесію для нас не праблема, праблема будзе, калі раптам захочам вярнуцца... Жыць вельмі хочацца. Аддаваць. У душы нешта дзеецца, назапашваецца нешта, прадчуванні ёсць... Я, насуперак усяму, зрабіўся аптымістам, насуперак усяму намагаюся аддаць... Не да нас, так. Час такі: трэба трымацца. І таму мы застаёмся з Караткевічам, з Пушкіным, з Чэхавым, а з замежных аўтараў хутка прапануем свайму гледачу меладраму Касоны "Дрэвы паміраюць стоячы". Касона — наша своеасаблівая мастацкая мяжа. Дакладней, не Касона — ягоны твор. Ніжэй за падобную высакакласную, але меладраму — няможна. Хоць ёсць процьма смяшлівых такіх п'ес, а хтосьці з іх і рагатаць будзе, але я гэтага смеху зразумець не ўстане. Не хачу, каб смяяліся з голых задоў або вывернутых шлункаў. Трэба, каб было смешна і самотна, крыху так самотна, — праз тое, што і тым сам, глядач, недасканалы, і чалавек на сцэне — такі самы... У тэатры працуюць яшчэ два рэжысёры, *Юрый Лізянгевіч ды* Антон Грышкевіч, трэці — я. Мы мусім быць рознымі, адно аднаму зайздросціць, сапернічаць, ісці далей...



**— Балазе, Маслюк пры гэтых словах усміхаецца.**

— Я не карыслівы чалавек. У мяне ёсць пэўны статус і няма патрэбы рабіць нейкую кар'еру.

**— Хіба акцёрскую. Ведаю, ты маеш намер выйсці ў галоўнай ролі ва ўласнай п'есе ўласнае пастаноўкі...**

— Мне цяжка патлумачыць гэта акцёрам: надта ўжо аўтарскі гэта матэрыял... Мне сорак два гады. Было ўжо ўсё: і ўзлёты, і грымакі, і ўзнагароды, і непаразуменні. Я сівы чалавек. Сёння, я думаю, свабода — гэта цалкам згубіць усё галоўнае, усё найважнае для цябе ў жыцці, каб зразумець, нарэшце, што і як ты любіш. Фармулёўка не ідэальная, але для мяне — прыдатная. Я ўжо сёння — вольны. *Ёсць сябры, сям'я,* радзіма. Мова — яшчэ ёсць. Я сёння не магу ставіць таму, што трэба. У мяне, як і ў цябе, адно жыццё, таму я і напісаў п'есу, спадзеючыся, што толькі тэма чалавечай цеплыні прыцягне ў залу людзей. Ці не кожны сёння марыць проста пагрэцца, прытуліцца, бо свет наўкол усё больш нагадвае вар'ятню...

**— Мне. — яшчэ калісь увасобленую ў спектакль пад назваю *"А хтосьці выпаў з гнязда"*, — у Магілёве *любілі* гэты спектакль. Я памятаю і іншую — прадказаную вар'ятню. Спектакль "Каханне, джаз і чорт" (як па-здрадніцку калыхаліся масні́чыны на трэцім ярусе *Магілёўскай драмы: паверх вось-вось* мусілі зачыняць, як аварыйны)...**

— На юбілеі тэатра я даў распіску, што пастаўлю там спектакль. Час ягоны, відаць, набліжаецца... І я люблю Магілёў. Цяпер асабліва радуе адна акалічнасць: мастацкім кіраўніком тэатра ўжо сёмы месяц як

тэлерадыёкампанія. Фундацыя ж ажыццяўляецца без дзяржаўных выдаткаў — за кошт камерцыйных структур. Журы конкурсу маладых выканаўцаў узначальвае Віктар Вуячыч. У якасці Гран-пры зноў мяркуецца аўтамабіль, будзе шэраг іншых каштоўных падарункаў для лаўрэатаў і дыпламантаў.

Як зазначыў сп. Фінберг, тры гады таму, ладзячы фэст у Маладзечне, арганізатары баяліся, што не хопіць належнай колькасці беларускіх песень, каб зрабіць годныя сучасныя праграмы, у тым ліку й конкурсную. На другім фестывалі хваляваліся за якасць песень, якіх з'явілася ўжо ў дастатковай колькасці. Сёлета, дзякуй Богу, ёсць выбар. І выбар песень для фестывальных праграм будзе ажыццяўляцца па старых добрых крытэрыях: перавага за паэтычнай класікай, густоўнымі паэтычнымі тэкстамі, таленавітымі кампазітарамі. "Маладзечна-95" мае на мэце падтрымку ды прапаганду беларускага слова, яго развіццё ў лучнасці з добрай мелодыяй.

С. Б.

---

прызначаны мой студэнт Віктар Куржалаў. Ён, праўда, як сціплы чалавек, падкрэслівае, што пакуль толькі "выконвае абавязкі", але мне было прыемна пачуць ад акцёраў: "Ну і студэнта вы ўзгадавалі!" З адценнем павацтлівасці і разумення: Віктар узяўся наводзіць парадкі ў тэатры.

**— Спачуваю. У яго, як і ў цябе, як і шмат у каго ў тэатры — брак моладзі, шмат не занятых жанчын, некалькі бесперспектыўных мужчын, мала часу на спакойную працу з трупаю і яшчэ менш — спадзяванняў на яе творчы рост... Мяняюцца толькі гарады і назвы. Рэчы, іхні стан як няскратныя. Я магу да месца згадаць вялікага італьянца Джорджа Стрэлера, які ў буйных мастацкіх крызісах бачыў перш-наперш крызісы арганізацыйныя, адміністрацыйныя. Каб пазбыцца хоць часцінкі гэтых крызісаў, ты падаўся ў дырэктары?**

— Я на сваіх дзвюх пасадах... не сяджу. Сядзець не выпадае. Аналізуючы два гады працы, мяркую, што мог бы зрабіць больш, але з-за ўласнай душэўнай раскалванасці... Не так проста быць жывым чалавекам, ведаеш. Я мог бы пачаць звальняць, але ёсць людзі, якія нічога, акрамя як прадстаўляць на сцэне, не ўмеюць. Я іх шкадую. Але сказаў сумленна, што тэатр будзе рабіць спектаклі, а не ладкаваць лёсы. Нядаўна Юрый Лізінгевіч паставіў "Непаразуменне" Камю, дзе Тамара Рыгораўна Шашкіна, нарэшце... сыграла! Сыграла, а маўчала з часоў "Старога дома" Казанцава. Чатырнаццаць гадоў! Не для яе бралі гэтую п'есу, але яна там — неабходная. А для Святланы Акружной бяром п'есу. Як бралі "Караля Ліра" — не з-за Леаніда Трушко, але без Леаніда Трушко — Ліра, — не бралі б...

**— Сведчу, што ты заўжды шанаваў акцёрскую адметнасць, незаменнасць. Калі акцёра Францкевіча з Рускага тэатра запрасілі ў Маскву, спектакль "Гамлет" проста знялі. Ты, ведаю, прыпыніў "Караля Ліра", калі пайшоў з тэатра Андрэй Градабоеў — Эдмунд...**

— Пасля прэм'еры "Вялікай ды самотнай рыбіны, што чакае", пасля таго, як адыграю і "здамся", уводжу на ролю Эдмунда Міхала Краснабаева; спектакль, як ты разумееш, зменіцца. Але вось выдаткі дырэктарскай дзейнасці: дагэтуль з жахам згадваю леташнія гастролі ў Германіі. Не так проста пераехаць тры мяжы ды своечасова рассунуць заслону перад залаю, куды ўсе білеты прададзены. Акцёры бачылі толькі радасны, творчы бок, я ж зведаў арганізацыйны. Праўда, галоўным рэжысёрам быць лягчэй, калі дырэктар арганізе побыт. Думаю, калі ўсё ў тэатры ўсталюецца, устаткуецца, папарадкуецца, як дырэктар я ўжо не спатрэблюся. Я і цяпер вырашаю толькі найважныя рэчы; штодзённым драбнейшым клопатам жыве дырэктар-распарадчык Аляксандр Харкевіч. Так, я намагаюся змяніць тэатральную мадэль, выйсці з арганізацыйнага крызісу. Не адмаўляюся сёння ад дырэктарства, бо гэта — быць мастацкім гаспадаром сваіх ідэй. Безумоўна, я парушаю звыклыя ўяўленні пра дырэктара: мяне, напрыклад, можна вельмі пакрыўдзіць. Але ж я магу пакрыўдзіць у адказ... Хоць не стараюся ў адказ — крыўдзіць: нешта дзеецца ў душы, нешта назапашваецца, набліжаецца...

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P.S. Прэм'ера спектакля Валерыя Маслюка "Вялікая ды самотная рыбіна, што чакае" прызначана на канец красавіка.**

---

Лаўрэаты-94

# ПАМАЖЫ НАМ, СВЯТАЯ РЭЧКА ЧАСУ...

Усё цячэ, усё змяняецца... Так калісьці гаварыў славуты Геракліт, гэтак званы "стыхійны дыялектык". Так, часам, паўтараем за ім і мы, "дыялектыкі" сучасныя, ужо не стыхійныя, а свядомыя, адукаваныя. Сёння гэта — банальная ісціна, але дазволю сабе ўсё ж звярнуцца да яе, і вось чаму. Так, усё цячэ і цячэ, напэўна, толькі ў адным напрамку, хаця памятаем і тое, як некаторыя рэкі збіраліся прымусіць рушыць у супрацьлеглы бок... Так, усё змяняецца, але, зноў-такі, у якім кірунку, ці да лепшага?... Няпростыя гэта пытанні, і, канечне, слушны адказ на іх дасць толькі час, самы непрадузяты суддзя, як вядома. Аднак сёе-тое можам паспрабаваць ацаніць і мы, звычайныя людзі.

Падзея, якая падштурхнула ўзяцца за пяро, — творчы вечар кампазітара Андрэя Бандарэнкі, які адбыўся ў зале факультэта беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Як вядома, у канцы мінулага года А. Бандарэнка быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі за оперу "Князь Навагрудскі", і той вечар меўся быць своеасаблівым урачыстым сваткаваннем бясспрэчна значнага дасягнення таленавітага музыканта. Памятаю, як шэсць гадоў таму ў Гродне таксама быў наладжаны аўтарскі канцэрт кампазітара. Перачытаўшы свае нататкі з той нагоды, задаволена заўважыў, што многае сапраўды змянілася (чаму і ўспомніўся антычны філосаф). Але не ўсё: часам — на жаль, а часам — і на шчасце.

Дык што ж змянілася?

Першае і, бадай, галоўнае тое, што А. Бандарэнка з маладога, падаючага надзеі кампазітара ператварыўся, на маю думку, у Майстра. Можа, і трохі гучна сказана, тым больш, што крытэрый гэтага самага Майстэрства — рэч даволі складаная. Але няўхільны творчы рост гродзенскага аўтара і бясспрэчны з таго папулярнасць ды пашырэнне арэалу гучання яго- най музыкі не выклікаюць сумненняў. І таму як заканамернасць успрымаецца пастаноўка ДАВТам Беларусі оперы "Князь Навагрудскі" і атрыманне за яе Дзяржаўнай прэміі. І калі шэсць гадоў таму лімаўскі артыкул пра А. Бандарэнку быў названы "Пакуль без "лаўраў", то цяпер можна смела сцвярджаць, што "лаўры" ёсць, і цалкам заслужаныя.

Што ж, гэта добрыя змены, гэта — "на шчасце". "На шчасце" і тое, што калі на тым колішнім аўтарскім вечары выканаўцамі былі проста энтузіясты, сабраныя кампазітарам дзякуючы асабістым кантактам, дык сёння ў Гродне ёсць гарадская капэла, арганізаваныя прафесійны калектыў пад кіраўніцтвам самога ж А. Бандарэнкі. У выніку мясцовыя меламаны маглі цяпер пачуць не толькі камерныя творы і некалькі харавых партытур, але атрымаць даволі поўнае і разнастайнае ўяўленне пра творчасць свайго земляка. У канцэрце прагучалі Струнны квартэт, харавы канцэрт "Вячэрняя малітва" на вершы С. Грахоўскага, фрагменты з "Літургіі Іаана Златавуста", два хоры — апрацоўка беларускай народнай песні "Даўно, даўно тое было" і "Анёл" на верш А. Пушкіна, Сімфонія для камернага аркестра і "Прыпавесць пра душу чалавечую", створаная на аснове музыкі оперы "Князь Навагрудскі".

Усе творы, натхнёна выкананыя аркестрам (дырыжор У. Борматаў), хорам (кір. Л. Іконнікава) і салістамі капэлы, яшчэ раз нагадалі, што А. Бандарэнка застаўся верным абранаму шляху ў мастацтве, асноўнай ідэі — няспынннаму пошуку адказаў на пытанні пра сэнс існавання чалавека на зямлі, пра сутнасць быцця, якое для самога аўтара перш-наперш звязана з верай, з духоўнасцю, з праваслаўем. І гэта не даніна сучаснасці, гэта глыбока асэнсаваны выбар, зроблены яшчэ ў 70-я, калі наведваць царкву было зусім не модна, як зараз, а часам і небяспечна. Але ў душы Андрэя гэта засталося, не змянілася — і таксама "на шчасце". Як і тое, што не змяніліся і адносіны кампазітара да творчасці — сур'ёзныя, высакародныя, некан'юнктурныя, як заўважыла музыказнаўца С. Калчанава (дарэчы, зноў-такі нязменная вядучая аўтарскіх канцэртаў А. Бандарэнкі).

Так, гэта ўсё "на шчасце". Але "ліха без дабра не бывае", як і "дабра без ліха". І таму не абмінём мы і тое, што "на жаль".

На жаль, вельмі змянілася наша жыццё, і куды яно цяпер цячэ, напэўна, аднаму Богу вядома. Аднэзначна пакуль толькі тое, што "цячэ" яно ў бок ад культуры, ад мастацтва. Вядомыя цяжкасці зусім не спрыяюць і росту колькасці аматараў музыкі — у каго для яе не хапае сіл пасля "блукання па пакутах" у гарадскіх магазінах і грамадскім транспарце, у каго часу, бо тэрмінова трэба падлічваць "навар" і зноў "імкнуцца да рынку", а ў каго і грошай... І не таму, што білет дарагі, а таму, што кішэня пустая. Вось і Дзяржаўная прэмія, якую атрымаў А. Бандарэнка, — 100 мінімальных заработных плат, на тэлевізар і то не хопіць, а на фартэпіяна (раптам захоча маэстра абнавіць інструмент) трэба яшчэ амаль паўтары такіх, і зноў жа можна не паспець за цаной, яна ж, як вядома, ляціць хутчэй за час...

"На жаль" і тое, што не змянілася і стаўленне афіцыйных улад да культуры і мастацтва, а калі і змянілася, то не да лепшага. Канешне, праблем цяпер хапае ва ўсіх, тым не менш не кожны ж дзень (ды што там дзень — год, дзесяцігоддзе!) у абласным цэнтры з'яўляецца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ў галіне мастацтва. Можна было б і нейк адзначыць гэта на адпаведным узроўні, ці хаця б прыйсці на сустрэчу, якую наладзілі па ініцыятыве ГДУ. Між іншым, рэктар універсітэта Л. Кіеўч вітаў Андрэя і ўручыў памятны падарунак. Але афіцыйнаму кіраўніцтву, відаць, не да культуры. На жаль...



Вось такія, можа, й не надта святочныя, высновы атрымаліся з нагоды ўшанавання ў Гродне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі кампазітара А. Бандарэнкі. Аднак тое, можа, і натуральна? Бо сапраўдны мастацкі талент на сваім шляху часцей спатыкае церні, чым ружы. А тое, што А. Бандарэнка — гэта сапраўдны талент, мяркую, не будуць аспрэчваць ні прафесіяналы, знаўцы сучаснай беларускай музыкі, ні аматары, якія хоць раз пабывалі на яго́ных канцэртах.

Застаецца толькі традыцыйнае, але непазбежнае — шчыра павіншаваць кампазітара з узнагародай і пажадаць далейшых творчых поспехаў. Яны, безумоўна, наперадзе. І будзем спадзявацца, што ўсё ж такі зменіцца да лепшага наша рэчаіснасць, што "рэчка часу" аднясе на сваіх хвалях тое шматаблічнае зло, якое сёння замінае беларусам "людзьмі звацца", і нарэшце ўсталююцца на шматпакутнай нашай зямлі дабро і справядлівасць, да якіх заклікае нас і музыка А. Бандарэнкі.

**Аляксей САЛАДУХІН**

---

Рэпліка

# СПЯЁМ?

У 1994 годзе ў Віцебску тыражом 2000 экземпляраў выйшаў зборнік "Витебская частушка" (назва падаецца на рускай і беларускай мовах, як, дарэчы, і частушкі). Склалі яго І. Л. Лапін і В. Н. Паклонская. Аператыўнасці выдання можна толькі пазайздросціць: 5 чэрвеня здадзены ў набор, а 20 чэрвеня падпісаны ў друк.

Збор фальклору — справа, якая заслугоўвае безумоўнай падтрымкі і адабрэння. У нетрах народнай творчасці захоўваецца нямала сапраўдных пярлінак, бліскучых, неацэнных самацветаў. Але нельга забываць, што побач з імі сустракаюцца нізкапробныя тварэнні, грубыя вульгарызмы, шлакі, непрыстойнасці, якія не заслугоўваюць месца на наборных станах.

На жаль, складальнікі "Віцебскай частушкі" разам з высокамастацкімі творамі ўключылі і элементарную пахабшчыну, якую аўтарка прадмовы В. Паклонская чамусьці блытае з эротыкай: "Включены в сборник и эротические частушки". Няўжо яна — жанчына! — лічыць усяго эротыкай гэтыя шматлікія трошкі завуаляваныя скарачэннем е...ь, е...я, п...ды? Яны ж так лёгка прачытваюцца ў вершаваным радку! Ды каб не прачытваліся, які сэнс быў бы іх прыводзіць.

Хіба недастаткова нам мата, пахабшчыны на вуліцах, у транспарце, іншых людных месцах, каб іх яшчэ тыражаваць друкаваным спосабам? Ды што там проста друкаваць! Укладальніца піша далей: "Частушки проигрывают, если они читаются, а не исполняются".

Што ж, на хвалях эйфарыі ад свабоды і незалежнасці можна прапанаваць такія частушкі ў спявацкія калектывы, у рэпертуар сцэнічных выкананняў, у мітынговыя шарэнгі, нарэшце на радыё і тэлебачанне. Можа, частушкі з такой лексікай, па словах В. Паклонскай, "несут обновляющую идею"? Мусіць, забылі віцебскія фалькларысты, што нельга быць свабодным і незалежным ад адказнасці, маралі, культуры.

Аўтарка прадмовы спасылаецца на аўтарытэты. Спашлёмся і мы. М. Федароўскі, запісваючы беларускі фальклор, не абмінаў фрывольных частушак, частушак з нецэнзурнай лексікай. Але вядомы збор "Люд беларускі" выдаваў без іх. Толькі ў пасляваенны час выдаўцы выпусцілі кніжачку гэтых частушак абмежаваным тыражом. А сам збіральнік не ўключаў у асноўны збор такія рэчы, якія віцебчанам, напэўна, падаліся б верхам цнатлівасці:

**Дзяўчынанька, не дам веры,**
**Бо картоплі не ўкіпелі.**
**Сыры дровы, горкі дым,**
**Легла б спаці — няма з кім.**

Думаецца, М. Федароўскім кіравалі ў першую чаргу эстэтычная чуйнасць, выхаванасць, культура, разуменне ролі мастацкага слова і пачуццё адказнасці за яго. Усяго гэтага не хапіла віцебскім складальнікам зборніка частушак.

Можна запярэчыць, што не падаюцца ўзоры віцебскіх адкрыццяў. Ну вось найбольш "нявінныя", на думку складальнікаў, бо падаюцца без скарачэнняў, радкі з розных частушак: „Мне давалку показали; Ей порвали целку." Рука не падымаецца, каб прапанаваць радкі з дзесяткаў частушак.

А ў кніжцы, па прыблізным падліку, тры тысячы вершаваных радкоў.

І апошняе. Зборнік асветлены імем педагагічнага інстытута (на адвароце тытульнага ліста пазначана: "Издательство Витебского пединститута"). Хіба не здзівішся, чаму там могуць навучыць будучых выхавальнікаў падрастаючага пакалення. А, можа, зборнік і выдалі спецыяльна як дапаможнік для сваіх выхаванцаў? Што ж, некаторыя частушкі вучаць абыходлівасці, стрыманасці, нават галантнасці. Вось як выгаворвае свайй сяброўцы на спатканні выкшталцоны кавалер:

**Не спеши трусы снимать,**
**Мне давалку подставлять!**

Якраз для студэнцкага асяроддзя!

Як не пагадзіцца з апошнім барадулінскім азначэннем нашага грамадства, ад якога "адцураўся апошні сорам" ("ЛіМ", N 8, 1995). Сведчаннем гэтага — зборнік, складзены паэтавымі землякамі.

**Георгій ЮРЧАНКА**

*Калі пачынаць з самага пачатку, дык, напэўна, з падзей у Віцебску ў 1962 годзе. Зразумела, можна было б прыгадаць і дэкрэты СНК за подпісамі Леніна аб ахове помнікаў, і яшчэ сёе-тое. А чым гэта скончылася? Балючае пытанне, асабліва для Беларусі. Таму не будзем кранаць тыя амаль былінныя часы і распачнём гаворку з пасляваеннай сітуацыі.*

# ГЭТА САЛОДКАЕ СЛОВА — ХАЛЯВА

## КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА СТАН АХОВЫ ПОМНІКАЎ І РЭСТАЎРАЦЫІ

Першыя спісы помнікаў, узятых пад ахову, датуюцца пачаткам 50-х. Дарэмна там шукаць цэрквы, касцёлы. У лепшым выпадку значыліся замчышчы ды асабліва буйныя і добра захаваныя замкі, кшталту Мірскага ці Нясвіжскага (зразумела, апрача помнікаў правадырам). Таму вернемся ў Віцебск.

Што б там ні казалі, а ўсё ж ёсць нейкая глыбінная сувязь ледзь не татальнага вынішчэння архітэктурных помнікаў культавага дойлідства ў гэтым старажытным горадзе і тым, што менавіта ў Віцебску "залёталі" славянскія сокалы, "захадзілі" казацкія атаманы ды буйна "заквітнелі" розныя рухі, партыі ды арганізацыі вечна ўчарашніх. Нельга сказаць, каб да шэсцьдзесят другога нічога нідзе не ўзрывалі: і ўзрывалі, і разбуралі дастаткова. Ды з каго за гэта хоць валасіна звалілася? Але калі ў Віцебску ў 1962 г. узарвалі Дабравешчанскую царкву XII ст., ад выбуху нечакана пайшло рэха.

У гэты час ужо атрымаў прызнанне створаны ў 1951 г. Музей драўлянай паўночнарускай архітэктуры "Кіжы", значную частку якога складае якраз культавае дойлідства; разам з тым у гістарычнай навуцы запанавала адроджаная Б.Рыбаковым тэорыя агульнай старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. І хаця яшчэ не сышла так званая хрушчоўская хваля барацьбы з рэлігіяй, але на помнікі XI—XIII стагоддзяў сталі, скажам так, звяртаць увагу. Карацей, гісторыя з Віцебскай царквой трапіла ў папулярны сатырычны кіначасопіс "Фитиль". Кажуць, гэты "Фитиль" нават быў прадметам абмеркавання на нарадзе ў Хрушчова. А па Віцебску тады папаўзлі самыя неверагодныя чуткі, бо ўлады маўчалі і ніхто нічога толкам не ведаў пра гэту царкву. Казалі, напрыклад, што ў ёй збіралася нейкае апалчэнне на татар. Узарваную царкву ледзьве не кінуліся адбудоўваць нанова, але, дзякуй богу, абышлося. Пазней спецыялісты адрэстаўравалі рэшткі царквы. Прашу звярнуць увагу — менавіта адрэстаўравалі, а не закансервавалі, як нярэдка цяпер пішуць.

У другой палавіне 60-ых было ўтворана рэспубліканскае добраахвотнае Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (ТАП). Калі вы маеце думку, што пасля гэтага разбурэнне каштоўных помнікаў даўніны спынілася, то глыбока памыляецеся. У Оршы, напрыклад, у 1969 г. былі разбураны касцёл XVII ст. і царква XVIII ст. з санкцыі гарадскога савета ТАП. Хапала падобнага і ў іншых гарадах. Неяк так атрымлівалася, што Таварыства існавала само па сабе, а помнікі — самі па сабе, нібы ў розных плоскасцях. ТАП калі і ахоўвала помнікі, то не тыя, якія патрабавалі гэтага. З самага пачатку намінальна незалежная грамадская арганізацыя была трывала ўключана ў структуры дзяржаўнай бюракратыі. Паводле нейкага негалоснага правіла старшынёй рэгіянальнага аддзялення ТАП станавіўся намеснік старшыні рай(гар)выканкама, а пасада адказнага сакратара як правіла была занята адстаўнікомпенсіянерам мясцовай дзяржнаменклатуры. Узносы збіраліся цэнтралізавана, гэтым ды пісаннем папер і абмяжоўвалася дзейнасць Таварыства. Куды больш важным на той час стала выданне друкаванага органа ТАП — бюлетэня "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі". Думаю, што значэнне гэтага часопіса ў справе пашырэння гістарычных ведаў, прапаганды гістарычных помнікаў, стварэння ўстойлівай цікаўнасці ў грамадстве да сваёй гісторыі й культуры, нарэшце, значэнне часопіса як аўтарытэтнага друкаванага органа навукоўцаў і краязнаўцаў яшчэ будзе па заслугах ацэнена.

Не менш важным, хаця і менш вядомым аспектам праблемы "дзяржава і помнікі" стала стварэнне ў 1968 г. СНРПМ (специальная научная реставрационно-производственная мастерская) пры Упраўленні рэстаўрацыі. Кузня кадраў нацыянальнай рэстаўрацыі? Так, але пры агаворцы: калі б дзяржава праводзіла цвёрдую палітыу ў справе захавання помнікаў гісторыі, як, напрыклад, у суседняй Літве. У нас жа думалі іначай: навошта захоўваць гэтыя сведчанні польска-літоўскага панавання? Абмежаванае кола рупліўцаў за які касцёл ці цэркаўку вяло няроўнае змаганне з чыноўным малохам самага развітога сацыялізму ў свеце. Дарэчы, святары тады, паводле выразу аднаго з гэтых рупліўцаў, сядзелі ціха, як мышы. Такой дзяржаве і высокакваліфікаваныя рэстаўратары былі не дужа патрэбныя. Тым не менш адбыліся нейкія зрухі: архітэктурныя помнікі пачалі вывучаць, даследаваць, у агульнасаюзных навуковых часопісах і зборніках сталі публікавацца артыкулы, прысвечаныя беларускай старажытнай архітэктуры, вылучыліся мясцовыя даследчыкі (Чантурыя, Якімовіч ды інш.). Нарэшце, у 70-я пачынаюцца рэгулярныя рэстаўрацыйныя работы.

Аднак да пачатку васьмідзесятых пытанні аховы помнікаў не сталі прадметам шырокай увагі грамадства. Сапраўднай падзеяй стала выступленне нефармальнай, як пазней стала модна іх называць, суполкі "Майстроўня" супраць знішчэння старога тэатра ў Мінску. Бывала — пісалі, хадзілі па кабінетах і раней, але каб арганізаваная акцыя пратэсту ды з лозунгамі?! Такога на "ціхай" Беларусі яшчэ не было. Таму расправа з удзельнікамі была ў лепшых традыцыях сацрэалізму: міліцыя, закратаваныя машыны, пратаколы — усё па поўнай праграме. Ад тэатра, зразумела, каменя на камені не пакінулі, але пачатак быў пакладзены. Нездарма ў пазнейшай "Талакі", іншых гісторыка-культурных клубаў вывучэнне, папулярызацыя, а па меры магчымасцей і ахова помнікаў мінуўшчыны стала адным з галоўных напрамкаў дзейнасці. Праўда, даволі хутка пачалася непазбежная палітызацыя гэтых клубаў, што пацягнула змены ў іх дзейнасці, а нярэдка і распад.

На старонках "ЛіМа" неяк узнікла палеміка вакол акадэмічнай серыі "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі", якая выйшла ў сярэдзіне васьмідзесятых. Што ж, недахопы гэтага выдання, крытыкаваныя тады, відавочныя і агульнавядомыя. Але, здаецца, крытыкі тады выпусцілі з-пад увагі адну істотную дэталь: упершыню ў нас былі сістэматызаваны, пералічаны і апісаны па раёнах і абласцях (асобна па Мінску) архітэктурныя, гісторыка-мемарыяльныя і археалагічныя помнікі Беларусі. Наколькі вядома, ні Расія, ні Украіна такіх збораў да сёння не маюць. Пераацаніць значэнне выдання проста немагчыма: упершыню, абапіраючыся на "Збор", можна было вывучаць помнікі пэўнага рэгіёна, уносіць папраўкі і дапаўненні, нарэшце кантраляваць стан захаванасці і ахову дзяржавай саміх помнікаў. Упершыню не недзе там у спісах ТАП, выканкамаў і сельсаветаў, а ў "Зборы" пералічваліся з характарыстыкай і апісаннем такія малавядомыя шырокаму колу археалагічныя помнікі, як гарадзішчы, селішчы, курганныя і бескурганныя могільнікі, стаянкі. У нейкім сэнсе "Збор" стаў іх афіцыйнай пашпартызацыяй. Становішча з аховай менавіта гэтай катэгорыі помнікаў застаецца найбольш нездавальняючым, іх працягвалі знішчаць дарожнікі і меліяратары, але з'явілася рэальная падстава ўзняць гаворку і спыніць разбурэнне. Вось, на мой погляд, у чым найпершая каштоўнасць гэтай работы.

Цікаўнасць да гістарычнай спадчыны ўвогуле, і архітэктурных помнікаў у прыватнасці, выплеснулася на паверхню ў часы перабудовы. Прычым на ўсіх узроўнях. У Інстытуце гісторыі вам і сёння могуць распавесці займальную гісторыю аб тым, як пісаліся лісты ў самыя высокія ўстановы за подпісамі самымі аўтарытэтнымі, калі на Банцараўскім гарадзішчы пад Мінскам нехта з "наменклатуры" паставіў лецішча. Ад гэтага гарадзішча, між іншым, названа археалагічная культура, а помнік з'яўляецца эталонным. Але акадэмічныя грыфы і аўтарытэтныя подпісы не зрабілі ў самых высокіх установах уражання. А чаго вартая эпапея змагання супраць станцыі метро "Няміга", будаўніцтва якой пагражала комплексу Верхняга горада? І калі аўтарытэтная камісія дала кампетэнтнае заключэнне супраць будоўлі метро ў гэтым месцы і на гэтай глыбіні, то справа яго пабудовы стала проста прынцыповай: каб ведалі ўсялякія там экстрэмісты-нацыяналісты. Вырашальная бітва за метро была прайграна і станцыю "Няміга" пабудавалі, як было запланавана. Застаецца толькі спадзявацца, што гэтая "Няміга" не стане траянскім канём для Верхняга горада.

Прайшло некалькі гадоў. Тыя, што хадзілі на суботнікі і пікеты, падаліся хто ў палітыку, хто ў рэлігію, а хто і ў камерцыю. Працуе Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, створана Дзяржінспекцыя па ахове гістарычнай спадчыны (ДзІнАС), працуе і Таварыства аховы помнікаў. Пра яго ўжо сталі забываць, а між іншым трэба аддаць яму і належнае: Полацкі Сафійскі сабор у значнай ступені рэстаўраваўся на сродкі ТАП.

А вось праблем, як высвятляецца, менш не стала. На змену санлівай абыякавасці дзяржаўна-партыйнага чынавенства прыйшла і прыходзіць кан'юнктурная публіка з камерцыйным прыцэлам, якая пры выпадку любіць паразважаць пра сваю адданасць справе захавання гістарычнай спадчыны. І высвятляецца цікавая рэч: гэтыя не лепшыя за тых, каму цэрквы заміналі будаваць светлую будучыню. Захацеў нехта ў Верхнім горадзе перабудаваць гістарычны будынак пад офіс фірмы? Няма праблем. Калі будынак "не адпавядае" густам нувартышаў, дык можна і знесці. Апошнія публікацыі ў нашай прэсе пераконваюць, што Верхняму гораду пагражае знішчэнне, ператварэнне ў яшчэ адно Траецкае прадмесце "пад даўніну".

Думаю, што сам гэты працэс не дужа адрозніваецца ад таго, як гэта робіцца ў Оршы. Вось прыклад.

Здаецца будынак у арэнду. Будынак — былая аршанская мытня, помнік архітэктуры XIX ст., элемент гістарычнай забудовы горада, знаходзіцца пад аховай. Апрача ўсяго, мае і мемарыяльнае значэнне: паводле сведчання сястры пісьменніка, у ім нарадзіўся Уладзімір Караткевіч. Гаспадар будынка — аддзел культуры гарвыканкама — заключае арэндны дагавор тэрмінам на 3 гады з аршанскай філіяй "Прыорбанка". У дагаворы нідзе ні слова аб тым, што гэта помнік архітэктуры, што ён ахоўваецца дзяржавай, што ні экстэр'ер, ні інтэр'ер нельга змяняць. Наадварот, арандатару даецца поўная свабода "выконваць работы па аздабленні фасада будынка, пракласці цеплавыя, водаправодныя і каналізацыйныя сеткі да будынка, выканаць унутраны рамонт".

Усё тлумачыць апошні пункт дагавора, ён варты таго, каб прывесці яго цалкам: "Арандатар, філія "Прыорбанка", прапануе аказваць фінансавую дапамогу аддзелу культуры на рэстаўрацыю помніка архітэктуры (!), правядзенне гарадскіх фестываляў, конкурсаў, шоу-праграм". Вось так. У выніку будынак зведаў карэнную перапланіроўку ўнутраных памяшканняў, а звонку цалкам пайшоў пад тынкоўку, якой ніколі ў сваёй гісторыі не меў, у адной сцяне прабіта вакенца. Нават не спецыяліст можа зразумець, што будынак страціў сваю першапачатковую каштоўнасць. А цяпер можна заключыць і дагавор аб ахове помніка. Вам не смешна?

Падобных парушэнняў можна прыводзіць шмат. У 1992 г. да 925-годдзя Оршы вырашылі "падправіць" аршанскае гарадзішча: "падраўнялі" схілы, спілаваўшы дрэвы на пляцоўцы, узяліся карчаваць пні, затым машынамі завозілі на гарадзішча грунт і бульдозерам раўнялі. А калі гарадская пракуратура нарэшце зацікавілася гэтымі работамі (дарэчы, паводле запыту з Мінска), то яе проста абвялі вакол пальца: прадставілі ліпавую адпіску за подпісам намесніцы старшыні гарадскога Фонду аховы помнікаў. Ліпавасць яе выявілася значна пазней, калі я выпадкова азнаёміў з гэтым тэкстам Галіну Георгіеўну; яна прызналася, што нічога падобнага ніколі не пісала. Што можна на гэта сказаць? Халява — вось той неалагізм, які можа дастаткова поўна адлюстраваць сэнс таго, што адбываецца. Халява, сэр!

Летась нечакана міліцыя ў Оршы пачала ўзводзіць нешта на падмурках царквы XVIII ст. Аказваецца, далі дазвол! Падмуркі — гэта ўжо не помнік... Прыйшлося ўдарыць ці не ва ўсе званы, і толькі такім чынам спынілі будоўлю: наехалі людзі з ДзІнАС, з ТАП, склалі пратакол... І тады нехта прыгадаў, што яшчэ ў сямідзесятыя тут адвялі ахоўную зону

*(Працяг на стар. 14.)*

## ЛЕШАКУ АСОЎСКАМУ — 90

**Вядомы польскі мовазнавец Лешак Асоўскі нарадзіўся 1 красавіка 1905 года. Дзяцінства і юнацтва правёў на Случчыне і ў Нясвіжы. Вучыўся ў Пазнанскім і Кракаўскім універсітэтах. Аўтар шэрага навуковых прац па славянскім мовазнаўстве, даследуе праблемы дыялекталогіі, анамастыкі, займаецца вывучэннем гісторыі беларускай мовы. Сярод яго прац такія, як "Моўныя праблемы Палесся" (1936), "З беларускай фанетыкі..." (1938). Акрамя таго, Л.Асоўскі ўдзяляе ўвагу пытанням сувязі Палесся з Валынню, вызначэння ўкраінска-беларускай моўнай мяжы, даследуе гісторыю асобных марфалагічных форм слоў, беларуска-польскія моўныя кантакты.**

**Віншуем спадара Асоўскага са слаўным юбілеем!**

## З ТЭАТРА — У ФІЛАРМОНІЮ

**У Вялікай зале філармоніі адбыўся канцэрт Сімфанічнага аркестра Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі. У гэтым грандыёзным, сапраўды "берліёзаўскім" па колькасці выканаўцаў канцэрце таксама ўдзельнічалі хор ДАВТа Беларусі, Камерны хор універсітэта культуры, Дзіцячы хор Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, аркестр Міністэрства абароны РБ. Салісты — Н.Залатарова, Н.Губская, У.Пятроў, В.Стральчэня. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — Аляксандр Анісімаў. Натуральна, што такі вялікі склад выканаўцаў (абумоўлены, дарэчы, рэпертуарам) не здолеў бы змясціцца на опернай сцэне. Акрамя таго, у тэатры аркестр і хор падзелены, што часткова абцяжарвае выкананне. Таму канцэрт вымагаў менавіта філарманічнай пляцоўкі.**

**У гэты вечар выконваліся творы, вядомыя публіцы, — "Карміна Бурана" К.Орфа, "Паэма экстазу" А.Скрабіна, а таксама была прадстаўлена прэм'ера — сюіта "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета", створаная А.Анісімавым на аснове аднайменнай оперы Д.Шастаковіча. Такім чынам, гучала даволі папулярная музыка, і (на што й разлічвалі арганізатары канцэрта) публікі ў зале было шмат. Цікавая трактоўка вядомых твораў не пакінула слухачоў абыякавымі, а рэжысёрскі эфект — святло ў зале на завяршэнне праграмы, у канцы "Паэмы экстазу" — зрабіў велізарнае ўражанне.**

**Канцэрт удаўся. Будзем чакаць новых філарманічных выступленняў аркестра тэатра.**

**Аляксей БАГАЧЭНКА**

## НА МЫТНІ НЕ СПЯЦЬ



**У Брэсцкім музеі выратаваных каштоўнасцей сабраны унікальныя экспанаты. Гэта і прадметы раскошы, і жывапіс розных школ і эпох, і рэдкая старадаўняя мэбля, абразы, розныя рэчы, вырабы з каштоўных металаў і шмат іншага. Штогод экспазіцыя музея папаўняецца за кошт твораў мастацтва, затрыманых мытняй пры спробе правозу іх за мяжу. Вось і нядаўна супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці перадалі ў музей партыю канфіскаваных на мяжы карцін і унікальных прадметаў побыту.**

**На здымку: супрацоўнікі Брэсцкага музея выратаваных каштоўнасцей Валянціна Лялько (справа) і Раіса Лысанава з творамі дэкаратыўнага мастацтва XIX—XX стагоддзяў, што перададзены музею.**

*Фота Рамана КАБЯКА,*

**БЕЛІНФАРМ**

# ГЭТА САЛОДКАЕ СЛОВА — ХАЛЯВА

*(Праця́г. пачатак на стар. 13.)*

базыльянскага кляштара. Праўда, саму паперу не адшукалі. Бывае.

Недасканаласць Закона "Аб ахове помнікаў" выяўляецца адразу, як толькі да яго звяртаешся. Відаць, пісаўся ён ва ўпэўненасці, што ім ніколі не будуць карыстацца. У гарадах вызначаюцца ахоўныя археалагічныя зоны гістарычнай часткі, дзе што-небудзь капаць можна толькі пасля археалагічных доследаў гэтага месца за кошт таго, каму трэба тут капаць. У Оршы гэты парадак, зразумела, трывала парушаецца. Што рабіць з парушальнікам? Якое пакаранне яму вызначыць? Які памер штрафу? А мо трэба адразу пазбаўляць волі? Адміністрацыйная камісія выканкама не ведае, бо няма падзаконных актаў.

У Аршанскім раёне становішча яшчэ горшае; там не імкнуцца "прыцягваць". Там раней за горад стварылі Фонд аховы помнікаў, адзіная мэта якога — не аддаваць унёскі па лініі ТАП у вобласць, а пакідаць іх на ўласныя патрэбы. Ідэя не пазбаўлена здаровага сэнсу, але нешта не бачна ад яе рэалізацыі вынікаў, акрамя суцэльнай безадказнасці.

У вёсцы Высокае Аршанскага раёна знаходзіцца сядзібны дом, узведзены на пачатку нашага стагоддзя. Апрача сваіх архітэктурных вартасцей, ён вядомы тым, што ў ім у 1928 г. праходзіў першы з'езд КПЗБ. Спярша кінуты без нагляду помнік давялі да стану, што называецца дах і сцены, а затым з аўкцыёна яго вельмі нядорага набыў дырэктар мясцовай школы. Зразумела, ніхто ніякіх дагавораў, якія б новага гаспадара да нечага абавязвалі, заключаць не падумаў.

У "ЛіМе" паведамлялася, што ў кастрычніку з помніка ахвярам сталінскіх расстрэлаў у прыгарадзе Оршы ўкралі бронзавы барэльеф. Ніхто не паруліўся ў райвыканкаме накіраваць у РАУС прадстаўленне аб здарэнні, так што крымінальная справа да сёння не ўзбуджана. Затое намеснік старшыні Аршанскага райвыканкама М.А.Дудалеў, які курыруе ахову помнікаў у раёне, нямала засмуціўся, калі паводле ўказання з вобласці пару гадоў таму з уліку знялі з дзесятак жалезабетонных ідалаў, якіх шчодра расстаўлялі па раёне ў часы самага развітога ладу. Стаяць яны і сёння, ды й доўга яшчэ, думаю, будуць упрыгожваць цэнтральныя сядзібы калгасаў.

Яшчэ прыклад. У канцы 80-х у вёсцы Задроўе на селішча Зарубінецкай і Банцараўскай культур пасадзілі калгасную ферму, знішчыўшы разам і курганны могільнік. Агледзелі гэта толькі нядаўна.

Можа скласціся ўяўленне, што Аршанскі раён — нейкае недарэчнае выключэнне. Летась група археолагаў з Акадэміі навук у суседнім Дубровенскім раёне праводзіла раскопкі трох гарадзішчаў. Там нядаўна прыйшоў на пасаду старшыні райвыканкама новы чалавек, ён сапраўды ўважліва ставіцца да праблем вывучэння і захавання помнікаў даўніны і не шкадуе на гэта грошай нават цяпер. У Дуброўне, напрыклад, вельмі адказна рыхтуюць выданне кнігі "Памяць". Уласна ім і запрошаны археолагі.

Паралельна з раскопкамі навукоўцы правялі абследаванне археалагічных помнікаў раёна. І вось што яно дало: за апошнія гады знішчана гарадзішча (засталася частка абарончага вала) у вёсцы Малое Бахава; кар'ерам цалкам знішчана гарадзішча ля вёскі Барадзіно; ля вёскі Глебава пашкоджаны 2 курганы; у гарадзішча вёскі Панізоўе знесена частка абарончага вала; у вёсцы Баброва пры пракладцы дарогі знішчана гарадзішча (захавалася толькі частка абарончага вала). Можна толькі спадзявацца, што ў іншых раёнах становішча некалькі лепш.

Рэстаўрацыя цесна звязана з аховай помнікаў. У нас ёсць што аднаўляць. Аказваецца, ёсць і каму. Працуюць спецыялізаваныя праектныя інстытуты, у абласцях ёсць рэстаўрацыйныя майстэрні. Гады тры таму пры аблвыканкамах утвораны новыя аддзелы, якія так і называюцца — рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў. Ёсць узоры рэстаўрацыі, якія высока ацэньваюцца: Камянецкая вежа, Сафіскі сабор, Мірскі замак (апошні, праўда, незавершаны). Верагодна, можна назваць яшчэ нешта, але мушу паставіць у гэты шэраг Дабравешчанскую царкву ў Віцебску, як гэта ні дзіўна гучыць. Здавалася б, што там рэстаўраваць пасля выбуху? Аднак не будзем спяшацца. Гэта найбольш яскравы прыклад разумення сутнасці навуковай рэстаўрацыі, што дастаткова поўна сфармуляваў яшчэ ў пачатку 70-х Яўген Міхайлоўскі ў сваёй працы "Реставрация памятников архитектуры". Адзін з галоўных прынцыпаў — не ствараць навабудаў замест сапраўднага помніка.

Мне здаецца, што гэта якраз прыклад таго, як рэстаўратар (архітэктар С.Друшчыц) гранічна адказна падышоў да помніка. Пры той ступені разбурэння царкву нельга было аднавіць. Замест навабуду ў псеўдавізантыйскім стылі, магчыма, нават па-майстэрску выкананага, была ашчадна захавана муроўка XII ст. Замест падробкі "а ля XII ст." гледачу прапануецца арыгінал. А сапраўднае дойлідства, як сапраўднае мастацтва, заўсёды хвалюе, выклікае цікаўнасць і павагу. Нават у такім выглядзе. Таму гэта не кансервацыя, як прынята пісаць, а самая сапраўдная рэстаўрацыя. Усе размовы аб тым, што Дабравешчанку трэба "аднавіць", якія часам чуюцца зараз, не маюць пад сабой рэальнае падставы, а ўсе магчымыя праекты будуць непазбежнай прафанацыяй рэстаўрацыі. Як немагчыма двойчы нарадзіцца, гэтак немагчыма аднавіць помнік такім, якім ён быў.

Дарэчы, у тым жа Віцебску адрэстаўравалі Пакроўскую царкву. Яна першапачаткова была каталіцкім касцёлам, і ў такім выглядзе яе меркавалася рэстаўраваць. Але потым над цэнтральным нефам узграмаздзілі купал на барабане ў псеўдарускім стылі. Неамураўеўка ў канцы XX ст.? Падобна, што так.

У Оршы цяпер якраз завяршаецца рэстаўрацыя будынка вадзянога млына, у якім мяркуецца размясціць музей этнаграфіі. А пачалі рэстаўрацыю з таго, што... знеслі аўтэнтычную мураваную агароджу, а замест яе ўзвялі іншую, "палепшаную". Чысты прыклад рэстаўрацый перыяду рамантызму. А ён у Еўропе прайшоў ужо паўтара стагоддзя таму. Затым млын накрылі ружовай дахоўкай, якой ён ніколі не меў, бо ўзведзены ў 1902 г. А ў дадатак сцены пафарбавалі, так што будынак набыў ненатуральны змрочны колер чырвонай сырой гліны. Эстэтыка чырвонацаглянае муроўкі мяркуе нешта іншае, і ёсць метадалогія яе аднаўлення. На мой суб'ектыўны погляд, гэта не рэстаўрацыя, гэта чыстая халява.

Хаця — што чакаць ад нашых рабочых-рэстаўратараў? І дзе тое спецыяльнае ПТВ, у якім іх павінны навучаць? Вы б пабачылі, у якіх умовах працуюць нашы рэстаўратары. Цякучасць кадраў страшэнная, квітнеюць злоўжыванні. "Варушацца людзі, працуе сякая-такая тэхніка. Але давайце падыдзем бліжэй і паназіраем. Пільнае вока заўважыць рамы на балкон і на дачную веранду, над якімі "шчыруюць" рэстаўратары. Ды і тое, што агароджаная тэрыторыя даўно ператварылася ў перавалачную базу, склад ценявой эканомікі, таксама нельга не заўважыць: бясконцай чарадой пад'язджаюць легкавушкі, маўклівыя людзі з шустрымі вочкамі хуценька нешта на іх грузяць, потым, бразнуўшы дзверцамі, імгненна знікаюць..." Гэта Ю.Татарынаў пісаў аб рэстаўрацыі Мікольскае царквы ў Магілёве ў часопісе "Беларусь" (N 3, 1991). Артыкул

# "ХОРАША, ШТО ВЫ ІДЗЯЦЕ Ў ЛІТАРАТУРУ, У РОДНУЮ МОВУ..."

*(Праця́г. Пачатак на стар.6-7.)*

**— Нарэшце вы ўспомнілі пра сябе... Давайце ўжо і будзем толькі пра вас. Іван Антонавіч, ці згадаеце вы самае вялікае ўражанне дзяцінства?**

— У мяне, па-першае, было два дзяцінствы: спачатку пяць гадоў гарадскога дзяцінства, а пасля яшчэ недзе пяць гадоў вясковага. Дык мяне страшна ўразіла пасля горада вёска. Яна і сталася маім самым вялікім дзіцячым уражаннем. А наогул у маленстве могуць уражваць самыя простыя рэчы: сіла ўражання ў сталым веку і ад больш значных з'яў жыцця не бывае такой моцнай, як у дзяцінстве ад, здавалася б, самага простага. Ну, калі згадваць канкрэтна, прыходзіць на памяць адзін вясковы эпізод... Цяпер ужо коней амаль няма, а калі і ёсць, дык такія заезджаныя, што не звяртаюць увагі ні на людзей, ні на машыны. А тады ад аўтамашыны конь літаральна вар'яцеў. Дык мяне страшна ўразіла, як пакалечаная кабыла (з нарастам на назе) са страху ўцякала ад машыны — на гэтай вось знявечанай назе.

З горада, з Адэсы, мне памятаецца пажар. Памятаю голад: 1921 год, на Украіне мор, і я малы (было мне недзе чатыры гады) гляджу ў акно падвала на голыя трупы людзей, якія памерлі з голаду... Было, канечне, і нешта вясёлае, радаснае, харошае. Уражанняў многа — я быў бы бедны чалавек, каб у мяне было б толькі адно ўражанне...

**— Лепшы доказ вашага багатага на ўражанні дзяцінства, напэўна, — вобразы дзяцей у вашых творах...**

— У гэтым сэнсе добра калісьці сказаў пра мяне Пімен Панчанка ў "ЛіМе", пішучы, што найлепш мне ўдаюцца вобразы дзяцей і жанчын. У юнацтве я вельмі марыў стаць дзіцячым пісьменнікам. У мяне гэта не атрымалася, але пра дзяцей я вельмі ахвотна пішу. Нешта невытлумачальнае ў гэтым ёсць. Каб не было дзяцей, каб чалавецтва не асвяжалася маленствам, не варта было б і жыць на свеце. Гэтаксама і ў адносінах да жанчыны — жанчыны-маці, будучай маці. Міжволі прыгадваецца апавяданне "Маленькая жанчына" Кузьмы Чорнага — якая там вялікая праўда жыцця і мастацтва! І самая галоўная думка там, што найбольшае злачынства — фашызм, злачынства перад маленствам, перад будучымі маткамі, будучымі жонкамі...

Цяжка гэта ўсё вытлумачыць, можа, у гэтым і асаблівасць нейкая мая, можа, і шчасце маё як літаратара, але дзеці мяне хвалююць усё жыццё. І жанчыны таксама — ва ўсіх сэнсах.

**— Паслухаўшы вас, можна падумаць, што з намі размаўляе не празаік, а паэт... І ўся ваша проза прасякнута паэзіяй, асабліва ў мініяцюрах. Што для вас важней: данесці адчуванне альбо паказаць малюнак?**

— Калі гаварыць пра запісы, пра мініяцюры, то мушу сказаць адразу: яны не пішуцца. Гэта ў мяне такая хвароба з гадоў пятнаццаці — я не абыходжуся без запісной кніжкі. Запісваю, і потым ужо з гэтага выбіраю. Я ніводнай мініяцюры не пісаў спецыяльна: маўляў, сяду ды напішу. Тое, пра што вы пытаецеся, таксама не заўсёды ў нашай уладзе. Калі ісці за адчуваннем, за думкай, яны самі ў нешта выльюцца, і невядома, што там пераважыць: само гэта адчуванне, думка, малюнак ці яшчэ што-небудзь. Памятаеце, у Фета: "Не знаю я, что буду петь, но только песня зреет..." Гэтак і тут. Ды й наогул цяжка пра сябе казаць — гэта ўжо справа крытыкаў...

**— А як вы ставіцеся да крытыкі? Ці былі ў вас цяжкасці з ёю, асабліва на пачатку творчага шляху?**

— З крытыкамі я пазнаёміўся пасля вайны. Тады была такая крытыка: альбо разгромная (з партыйнага пункту гледжання), альбо проста анатацыйнага характару. А яшчэ такі быў стандарт, што асабліва назіраўся ў часопісе "Беларусь", крытычны аддзел якога заўсёды канчаўся прыкладна так: "Аднак гэта — далейшы крок аўтара ў літарату-

Ліст з Аўстраліі

# "НАШЫ КАРАНІ АД ІХ ПРАРАСЛІ..."

**Шаноўная рэдакцыя! У вольныя хвіліны часам занатоўваю на паперы свае старэчыя думкі і пачуцці. Радкі складваюцца ў вершы. Некаторыя з іх перапісваю сюды.**

## КАЛОС

**Дзесь далёка на ўсходзе,
За акіянам-морам
Стаяў Калос у народзе.
Як не верыш — правер,
Зваўся ён — СССР.
(То не байка — сама быль,
Вядомы ўсім Курапаты
І Чарнобыль.)
Звонку выгляд — шырачэзны,
Ды высокі — цэлы гмах!
Толькі кволы — у нагах.
Выхваляўся: "Я найлепшы,
І магутны, і бліскучы,
Маналітны, ў адно злітны!"
А на справе ды па праўдзе
З друзу быў ён збудаваны
Ды ўнутры дзярмом напханы
І напоўнены крывёй.
І хістаўся ён часамі,
На падпоркі апіраўся,
Але ўсё ж стаяў сяк-так.
Ды аднойчы пахіснуўся,
Здрыгануўся — і няўзнак
На кавалкі разваліўся...
Толькі ж новыя майстры
Мкнуцца аднавіць ізноў
Той калос, адно назоў
Новы даць. І крычаць:
"Мы паставім небараку,
Як не сторчма,
То хоць ракам.
З назваю ж — такой бядэ,
Няхай будзе СНД!"
Ці не марная работа?
Вы працуеце дарма:
Не падняць таго дзярма!**

## ЧУТНЫ ГОЛАС ПЕРАПЁЛАЧАК

**Калі бываю ў самоце
Ў чужой далёкай старане,
Саджуся я пры акне
І ў одуме бы дрэмлю ціха.
Успамінаю край далёкі,
Паўнюткі гора і нядолі,
І бачу ў думках гай, дуброву,
І чую пах мядовай грэчкі,
Струменьчык звонкі срэбнай
рэчкі;
Быццам іду я сенажаццю
Альбо расянай жытняй
сцежкай,
І шэпчуць, звоняць каласы:
— Гэта ўсё храм зямной красы!
І чую песню перапёлак:
"Жаць-палоць,
Жаць-касіць,
Кахацца і любіць,
Смачна есці,
Віно піць,
Песні пець —
Не тужыць,
Працаваць
І дружыць,
Мірна, шчасна
Жыць..."
І ў одуме заплюшчу вочы,
Успомню я свой час дзявочы.
Цяпер жа я зусім старая
І мой век ужо кароткі.
На радзіме пабываю
Ў сваіх думах-марах,
Пабываю — і знікаюць
Сум з тугою,
І я зноўку — маладая...
Гэткай й паміраць.му...**

## БЕЛАРУСКАЯ КОННІЦА

**Дзынь-дзынь,
Цок ды цок!
Недалёка, дзесь праз гоні
Чуцен моцны гул пагоні.
Многа тупату і груку,
Звон падкоў ідзе ад бруку.
Гэта фронт народны гоніць
На сваіх уласных конях,
Гэта грозная "Пагоня"
Гоніць ворагаў з загонаў
І з усёй сваёй зямлі.
Смелы лёт магутных коней
Беларускае "Пагоні"!
Наперадзе — конік белы,
На ім вершнік дужы,
смелы:
— Зямля наша — не крадзена,
Яна нам Богам дадзена!
За "Пагоняй" — вояў згода
Беларускага народа.
І лунае грозны кліч:
— Пастаім мы за сябе!
Абаронім мы здабыткі,
Гістарычныя набыткі,
Запавет сваіх бацькоў!
Стаяць будзем смела,
мужна,
Выступаем фронтам дружна.
Толькі там ёсць перамога,
Дзе пануе еднасць, згода.
І імчыць,
ляціць "Пагоня",
Скачуць, скачуць нашы коні...**

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

**Заўсёды з табою,
Каханы наш край!
Цябе мы віншуем,
Цябе мы шануем,
Цябе мы кахаем
Ўсім сэрцам гарачым,
Наш край — Беларусь!
У час небяспекі
Бог крые цябе.
А як рог затрубіць
Трывогу,
Мы выйдзем усёй грамадою
Табе на падмогу.
Цябе мы кахаем,
Цябе мы вітаем
Поклічам гучным:
— Жыве Беларусь!
Цябе мы шкадуем,
Цябе мы шануем,
Цябе мы віншуем:
— Жыве Беларусь!**

•

**Ранняю зарою
Выйдзем на дарогу,
На шырокую.
Заспяваем песню,
Заспяваем гімн:
Сонцу яснаму,
Краю вольнаму,
Люду нашаму —
Беларускаму,
Працавітаму,
Церпяліваму,
Дабрадзейнаму,
Спачувальнаму,
Міласэрнаму, —
Каб ён вольна жыў
Ды багацце меў,
Каб волю здабыў!**

## СКАРБ

**Воля і цярпенне
Цябе гартавалі,
Надзея і вера
Сілы прыбаўлялі.
Ты была пакрыўджанай,
Беднай сіратою,
Цяжка працавала,
Песень не спявала,
Слёзы пралівала,
Ціха галасіла:
— Захавай мне мову,
Мову маёй маці,
Найдарожшы скарб мой,
Што Бог даў прыдбаці...**

Як бачыце, шаноўныя лімаўцы, гэта не мастацкая паэзія, а збалеласць душы, голас агітатара і прапагандыста беларушчыны з далёкай Аўстраліі.

Я беларуска з Менска. Пражыла ў гэтым любым мне горадзе 24 гады. Маладыя мае гады і ўсё жыццё праходзілі па выбоістай дарозе. У Менску скончыла вячэрняе аддзяленне педагагічнага інстытута імя М.Горкага ў 1939 годзе. Працавала (аж да пачатку вайны) у бібліятэцы Дома ўрада. Вайна адарвала мяне ад Бацькаўшчыны, лёс закінуў у далёкую заморскую краіну Аўстралію. У Менску ў чэрвені 1941 года на першым тыдні вайны пахавала двух сваіх дзетак. Потым, неўзабаве, — дзвюх сваіх цётак, што былі пры маім доглядзе. Ізноў хутка пахавала бацьку. Затым і апошняга свайго сынка. Шэсць дамавін аднесла на пагост за два гады вайны. Засталася адна, без блізкіх людзей, у паўразбуранай бамбёжкамі кватэры. Мая доля напаткала шматлікіх маіх землякоў-беларусаў. Была безнадзейнасць на жыццё.

Ды неяк вось выжыла. Сёння я маці і бабуля, мне восемдзесят адзін год. У Аўстраліі я нарадзіла чацвярых дзяцей, узгадавала і выхавала. Цяпер маю ўжо і дарослых унукаў. Стараюся ім перадаць усё лепшае духоўнае і душэўнае, чым багаты наш беларускі народ.

Чытаю "ЛіМ", і неяк не верыцца, што першы прэзідэнт Беларусі не ведае, хто ён па нацыянальнасці, калі гаворыць, што ён нарадзіўся на мяжы Беларусі і Смаленшчыны. (А хіба Смаленшчына не беларуская зямля, забраная братам-суседам?) Не руска-беларускі гібрыд прэзідэнт, а беларус. Ды не важна, дзе хто нарадзіўся, а важна, кім хто сябе лічыць, як сам чуецца — беларусам ці кім іншым. Вельмі важна, як спрыяе беларускаму народу, незалежнай беларускай дзяржаве. Калі прэзідэнт лічыцца бацькам нашага народа, то ён павінен з дзецьмі размаўляць моваю гэтага народа, дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь, калі яна прынята дзяржаўнай, нават замацавана Канстытуцыяй суверэннай дзяржавы.

А беларусам суверэннай Беларусі няўжо і сёння трэба змагацца за тое, каб "людзьмі звацца"? Ёсць цяпер свая Patria, то павінен быць і свой Patriятызм!

Запытайцеся ў маіх дзяцей і ўнукаў, хто яны па нацыянальнасці. Мае дзеці вам адкажуць: "Мы — беларусы, народжаныя ў Аўстраліі ад нашых беларускіх мамкі і таткі". Унукі скажуць вам: "Наш татка — беларус, а мамка — ірландка". А другія скажуць: "Наша мамка беларуска, а татка італьянец. Нашы карані ад іх прарасл". А ўсе разам скажуць: "Мы нарадзіліся ў Аўстраліі, шануем і любім гэты край і мы ёсць добрымі грамадзянамі Аўстраліі".

Трэба "гібрыдам" і "негібрыдам", усім грамадзянам Беларусі быць добрымі людзьмі-патрыётамі, любіць і шанаваць краіну, у якой яны жывуць, гаварыць моваю народа і краіны, — гэтак, як мы тут, у Аўстраліі.

**Людміла КОХАМСКАЯ**

# ПРОСТА "КІНО"

Шаноўная рэдакцыя!

Я даўні чытач "ЛіМа", а вось цяпер хачу папрасіць вас аб магчымасці выказацца. Праблема, якая мяне ўсхвалявала, яўна не гумарыстычная, але і смешныя ноткі ў ёй выкліканы зусім не толькі блізкасцю славутага Свята Смеху 1 Красавіка. Увесь гумар тут — стопрацэнтная рэальнасць, сутнасць якой — у імкненні "стварыць гімн Беларусі разам". Менавіта так называюцца конкурсы, якімі здзівілі мяне некаторыя вельмі паважаныя беларускія газеты ("Наша слова", "Звязда", "Народная газета"). Ідэя мо і някепская, каб разам сапраўды **стваралі** гімн, а не пераліцоўвалі стары. І тут я б запытаў без залішняй рыторыкі: "Да якога апупення мы дайшлі!" На жаль, тут "мы" — гэта не проста насельніцтва Беларусі, а менавіта "мы" — беларускія патрыёты.

Чытаў я, чытаў гэтыя гімны і, нарэшце, натхніўся на свой варыянт, каб па-свойму далучыцца да хіт-парада абсурду. Вось ён:

## МЫ ЎСЁ ТЫЯ Ж

**Мы, беларусы,
з братняю Руссю
Разам шукалі ды не знайшлі:
Партыі славу, нейчае імя...
Ну і куды без штаноў
мы прыйшлі?**

*Прыпеў:*
**Нацдэмакратыя,
фронта народная
Нас к таржаству мадэрнізму
вядзе.
Гэй, узрадуймася,
голь перакатная!
Але ж ашыйнік камуны гняце.**

**Праца народа, моц і свабода,
Шыла на мыла не зменіш ніяк,
Хай жа пры кожнай
дробнай нагодзе
Вісне над хаткаю
родненькі сцяг.**

*Прыпеў.*

**Хто мы? Русіны? Беларусіны?
Можа, ліцвінамі былі даўно?
Як ні жылі б, а годнае імя
Без самой годнасці —
проста "кіно".**

Ну вось такі гімн прыходзіць у галаў, калі чытаеш іншыя падобныя, з тым жа наборам слоў і, галоўнае, той жа музыкай у душы. Праўда, сябры мне сказалі, што ў мяне атрымалася акурат пародыя, ды, мяркую, наўрад ці. Хутчэй гэта адзінае, што сёння заслужыла Беларусь, калі на поўным сур'ёзе гуртам, хто як можа, бяруцца перакройваць старую дзяржку, каб счапіць з яе святочны строй. Карацей, бяруцца рабіць тое, што цывілізаваныя народы давяраюць выключна прафесіяналам, дый то не кожнаму з іх, а з прэтэнзіяй на месца ў сэрцах людзей. А гэтак... Мы хутка дадумаемся да помніка Ільічу, што стаіць на плошчы Незалежнасці, прыклеіць чыгунны парык і напісаць на ім: ЯНКА КУПАЛА.

**З павагай
Вітаўт МАРТЫНЕНКА**




*Малюнак Л. РАЗЛАДАВА.*

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264.
Нумар падпісаны 23. 3.1995 г.
ЗАКАЗ 805
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12